


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 05 (2960) Год LVIII | Беласток, 3 люты 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Тэкст і фота
Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Гадавіна Студзеньскага паўстання

**Сёлета мінае 150 гадоў ад выбуху Студзеньскага паўстання. Гэтая знамянальная гадавіна беражна адзначаецца ў нашай краіне, у тым ліку і ў Беластоку. З гэтай нагоды беластоцкі Дзяржаўны архіў наладзіў выстаўку дакументаў часу паўстання, а мясцовы Музей войска выстаўку нямногіх здымкаў з таго часу. Універсітэт у Беластоку наладзіў адмысловую навуковую сустрэчу.**



Выступае прафесар Алег Латышонак

Сам Беласток, які шмат гадоў да паўстання, разам з Беластоцкай акругай быў далучаны да Гродзенскай губерні, не адыграў па сутнасці ніякай ролі ў паўстанні. Баявыя дзеянні адбываліся ў аддаленні ад горада і таму тут памяткі ад тадышніх падзей не захаваліся, у тым ліку і дакументальныя; гэтыя апошнія беластоцкія ўстановы атрымалі звонку, у тым ліку з Гродна і Вільні. Гэта пра выстаўкі.

Больш змястоўнай была навуковая сесія з васьмі дакладаў. Прафесар Адам Чэслаў Дабронскі гаварыў пра легенду Студзеньскага паўстання, у тым ліку і пра яе „каляровыя” адценні. Бо ж гэтая падзея разглядаецца з розных пунктаў гледжання і па-рознаму з тых пунктаў бачыцца. А легенда — гэта толькі легенда, якая не заўсёды адлюстроўвае гістарычную праўду аб мінулых падзеях. Часта легендай карыстаюцца палітычныя дзеячы, падкаляроўваючы яе пад хвілінныя патрэбы. І часам складана выявіць, дзе тая легенда вырастае з гісторыі, а дзе яна адлюстроўвае актуальныя падфарбоўкі.

Прыхільнікі „белай” легенды адзначаюць, што ў Студзеньскім паўстанні актыўна задзейнічала каля ста пяцідзесяці тысяч чалавек, а калі прыняць пад увагу і іншыя асобы, тады той лік будзе значна буйнейшы. Але прыхільнікі „чорнай” легенды могуць аргументаваць, што ў тую ноч, калі паўстанне ўспыхнула, тых баевікоў было толькі адзінаццаць тысяч, а гэта ж лік не надта маштабны.

Паўстанне закончылася мілітарнай паразай. Некаторыя гісторыкі называюць яе часовай паразай, некаторыя лічаць яе катастрофай. Прынесла яно таксама палітычную паразу, бо не былі дасягнуты яго мэты, галоўнай з якіх была поўная незалежнасць Польшчы ў межах з 1772 года. Але поспех паўстання рос у пазнейшых гадах, якія прынеслі значныя грамадскія перамены. Студзеньскае паўстанне, нягледзячы на яго трагічныя вынікі — не толькі ў ліках смяротных ахвяр, але і ссылак — усталялася палякамі як маральная перамога.

„Белая” легенда падкрэслівае, што ў час паўстання дзейнічала польская дзяржава, першая канспірацыйная дзяржава; чарговая спрацавала ў час Другой сусветнай вайны. Гэта было не толькі войска, але і адміністрацыя, суды, шпіталі, пошта, нават дыпламатыя і г.д. Далей — гэта па сутнасці не было паўстанне, толькі партызанская вайна, крыніцай якой была незвычайная рашучасць яе ўдзельнікаў. Юзаф Пілсудскі пісаў, што паўстанне было межавой падзеяй, калі аджыла старая Польшча, а нарадзілася новая, з новай духоўнасцю яе насельніцтва.

Польская „чорная” легенда даносіла, што паўстанне выклікалі „дзеці, сацыялісты і масоны” дзеля задавальнення цара. Паўстанне ўспыхнула без плана, паглыбіла яно розныя разрэзы грамадскіх падзелаў, у тым ліку раскрыла і нацыянальную адметнасць беларусаў ці літоўцаў. Яно не дало таго плёну, на які разлічвалі яго пачынальнікі.

Збігнеў Раманюк пазнаёміў прысутных з некаторымі дакументамі з фондаў гродзенскіх архіваў. Зазначыў ён, што вельмі многія архіўныя матэрыялы яшчэ не раскрыты, яшчэ невядомыя яны так шырокай публіцы, як і вузкаму колу даследчыкаў. І што захоўваюць яны даволі нечаканыя дэталі. Ёсць там і геразім, і абыякавасць, і здрада, і яўная падтрымка расіян — усё. Ёсць там планы ссылак у Сібір цэлых вёсак, усяго іх насельніцтва, напрыклад, дэтальныя спіскі жыхароў вёсак, што ў наваколлі Дзядковіч. Ёсць і пра прымяненне грашовых стымулаў, напрыклад, за смерць расійскага афіцэра ў бітве пад Пухламі ўдава атрымала пяцьдзесят рублёў. А дробны шляхціч з Прушанкі, што на захадзе Браньскай гміны, за тое, што атрымаў пабоі, атрымаў аж шэсцьсот сярэбраных рублёў — бо пасля яго нага даносу ўся вёска — каля ста дваццаці асоб — была саслана ў Сібір. У Суражы пасля выканання прысуду [дакладчык не сказаў якога, але ён шмат фактаў хавае пад абрус, напрыклад, апісваючы пасляваенныя падзеі вакол Браньска гэты гісторык вельмі „забываецца” пра тое, што здарылася ў Занях; у гэтым выпадку, мабыць, прамаўчаў ён забойства тамашняга духоўнага ўсходняга абраду Канстанціна Пракаповіча — А. В.] паўстанцкаму камандзіру адна жанчына прапанавала некалькі рублёў просячы, каб паўстанцы павесілі ейнага мужа. Часта ў паўстанцкія атрады маладыя хлопцы былі мабілізаваны прымусова і яны — уцякалі.

Пра беларускае пытанне ў Студзеньскім паўстанні расказаў прафесар Алег Латышонак. Калі Лістападаўскае паўстанне 1830-1831 гадоў было найбольш „польскім” на тэрыторыі Беларусі, бо абодва тадышнія бакі — палякі і расіяне — не заўважалі там прысутнасці іншых нацый, затое ў Студзеньскім паўстанні абодва бакі адклікаліся да мясцовага насельніцтва і намагаліся яго загітаваць для сваіх мэтаў. У пачатку 1860-х гадоў была ў Беластоку заснавана Браніславам Шварцэ друкарня, якая выпусціла дзве беларускамоўныя брашуркі пад загалоўкам „Гутарка старога дзеда”. Магчыма, што той жа Шварцэ выдаў і чатыры нумары чарговага часопіса „Гутарка двух суседаў”. Чарговым беларускім выданнем была „Мужыцкая праўда”, якую выдаваў Кастусь Каліноўскі. Яе першы нумар паказаўся ўлетку 1862 года, пасля выйшлі яшчэ пяць нумароў; друкавалася яна, верагодна, у розных друкарнях. Варшаўскае кіраўніцтва Студзеньскага паўстання лічыла Каліноўскага сепаратыстам, бо ён быў перакананы, што мясцовае кіраўніцтва лепш пакіруе паўстаннем, чым Варшава. Да гэтага меркавання ён схіліў і віленскі Літоўскі правінцыянальны камітэт, а ягоныя погляды разыходзіліся з варшаўскімі наконт Беласточчыны, якую Варшава намагалася падпаракаваць сабе, а Каліноўскі на гэта не пагаджаўся. Былі і іншыя пункты разыходжання. Каліноўскі выдаваў таксама польскамоўную газету „Chorągiew Swobody”, дзе цяжка знайсці нейкія прызнакі сепаратызму. Прапольскай арыентацыі Каліноўскага супрацьдзейнічалі царскія ўлады, якія таксама сталі выдаваць беларускамоўныя свае прапагандысцкія брашуры. Яны, агульна мяркуючы, паклалі пачатак беларускай гістарыяграфіі. Аўтар гэтых тэкстаў афіцыйна невядомы, аднак навукоўцам здаецца, што быў ім Стэфан Куклінскі родам ад нашага Заблудава, які працаваў у тагачасных асветных структурах.

Паўстанцы, якія падлягалі кіраванаму Каліноўскім Літоўскаму правінцыяльнаму камітэту, былі недастаткова нарыхтаваны для прадбачанай ім задачы. Найлепш справа выглядала на Гродзеншчыне, дзе ўдалося сабраць усяго каля ста штук агнястрэльнай зброі на тры тысячы заангажаваных чалавек. Большасць збройных акцый на тэрыторыі Беларусі адбывалася па штампе: арганізацыя ўзброенага атрада, сутычкі з расейцамі, параза. Расейскія ўлады хутка перасягнулі паўстанцаў у захадах за прыхільнасць мужыкоў. Цар аб'явіў знос прыгону. Асаблівай варожасці мужыцкага насельніцтва да паўстанцаў не наглядалася, затое вельмі варожа да паўстанцаў паставіўся слой крыху адукаванага праваслаўнага насельніцтва, м.інш. духавенства і чыноўнікі, якія рашуча сталі на царскі бок. Стэрэатыпнае ўяўленне паказвае праціўнікаў паўстання ў выглядзе мужыцкай масы, але папраўдзе трэба гаварыць пра ідэйны лагер, які ўзначаліў пецярбургскі прафесар духоўнай акадэміі Міхаіл Каяловіч, родам з Кузніцы. Заклікаў ён царскія ўлады, каб узброілі беларускае насельніцтва, а яно ўжо расправіцца з палякамі „па-гайдамацку”. Радыкальныя заклікі Каяловіча перапалохалі нават саміх расейцаў.

З ходам часу кіраўніцтва паўстаннем на Беларусі перахапілі „белыя” і яны ўжо абмежавалі змаганне да ўз'яднання з Польшчай; Каліноўскі падпарадкаваўся гэтаму напрамку. Таксама і з расійскага боку адбыліся змены, калі віленскім генерал-губернатарам быў

працяг → 8





# Здароўе нацыі

Пайшлі мы неяк увечары з сябрам пайграць у настольны тэніс. Толькі добрыя нашы намеры разбіліся як хвалі прыбою. Ледзь не адзінае месца ў горадзе над Нёманам — стары кінатэатр „Усход", дзе былі тры тэнісныя сталы, аказаўся зачынены на рэканструкцыю. Побач будуецца палац забаў, які будзе належаць мясцоваму „камсамолу", а будынак былога кінатэатра нібыта будзе да яго далучаны. Незразумела толькі, навошта зачыняць другое, не зрабіўшы першага. Але гэта ўжо даўняя прынёманская традыцыя. Нічога не зробіш — памкнуліся мы ў цэнтр горада, дзе яшчэ нядаўна быў більярдавы клуб. Але ад таго таксама не засталося следу. Гэты будынак таксама перададзены правільнай „маладзёжы" — там дзе раней было людна, зараз шматлікія сталы бара і гуляе вецер. За здаровы лад жыцця, так бы мовіць.

Заракаўся я неяк не пісаць увогуле пра айчынны спорт, але да тэмы падштурхнуў чэмпіянат свету па гандболе, які прайшоў толькі што. На ім Беларусь, што вярнулася ў эліту пасля доўгага перапынку, заняла 15-е выніковае месца. Нібыта дасягненне, лідар дружыны Сяргей Рутэнка назваў вынік увогуле бліскучым. Але адкуль такая нізкая самаацэна? На гэтым турніры беларусы выйгралі толькі ў дзвюх пасрэдных азіяцкіх зборных. А тым, з кім мы павінны былі быць прыкладна на адным роўні — Польшчы, Сербіі, Славеніі, Харватыі — саступілі. Тая ж маленькая Славенія выбіла з розыгрышу вялізную Расію. І для яе гэта становіцца нормай. Можна прыгадаць, як славенцы не пусцілі тую ж Расію на футбольны чэмпіянат свету. А беларускія прадстаўнікі — спартоўцы з комплексам непаўнацэннасці. Так гандбалісты прайгралі за ўвесь час Польшчы 11 з 11 матчаў, не выйгралі ні ў адным з 9 паядынкаў і з расійцамі. Прычына тут не толькі ў майстэрстве. Хоць цяперашняе 15-е месца — гэта сапраўды крок напярэд.

І што мы маем у цяперашнім беларускім спорце і масавай фізкультуры? Наверсе піраміды правадыр з клюшкай, ніжэй процьма чыноўніцкіх структур, якія ў розны спосаб паразітуюць на спорце. Пад імі некалькі „чарапах", на якіх і трымаецца ўвесь беларускі спартовы свет — адна тэнісістка, адна біятланістка, адна плыўчыха. Толькі за плячыма ўнікальных „зорак" — Вікторыі Азаранкі, Дар'і Домрачавай, Аляксандры Герасімені — нікога няма. За суверэнны час страчаны ўсе традыцыі айчыннай спартовай гімнастыкі, фехтавання (за выняткам шаблістаў), скачкоў у ваду, лёгкай атлетыкі, усіх відаў барацьбы, многіх іншых дысцыплін. Пра гаротны стан розных відаў неаднаразова казалі спецыялісты і журналісты, але сістэму не прабіць, не зварухнуць. Прасцей жыць пад дэвізам „О, спорт, ты міф!".

Некаторыя пішуць, што сістэма развіцця спорту ў Беларусі скалькаваная яшчэ з савецкай сістэмы. Але тут можна пагадзіцца толькі ў сферы прыватызацыі дзяржавай усіх больш-менш значных вынікаў на міжнароднай арэне і выкарыстання гэтых поспехаў у сваёй прапагандзе. Што датычыць іншага — сітуацыя розніцца істотна. У савецкі час спорт і фізкультура сапраўды былі масавымі, праводзілася процьма спаборніцтваў на ўсіх роўнях, шмат было дзіцячых і юнацкіх спартакіяд, многія таленты выраслі ў вёсках, мястэчках і малых гарадах. Адтуль чэрпаўся рэсурс. Новае ж рэдкае пакаленне вялікага спорту практычна ўсё з вялікіх гарадоў, пераважна з Мінска.

У Амерыцы ажно два мільёны басейнаў, праз якія праходзіць практычна ўсе дзеці краіны. Там выбудавана сістэма натуральнага адбору праз дзіцячыя садкі, школы, каледжы, універсітэты. У Беларусі ж басейнаў мізер. Многім дзецям фактычна няма дзе навучыцца плаваць. Дзяржава хваліцца пабудаванымі лядавымі палацамі. Дык у меншай за нас па тэрыторыі Чэхіі тысячы каткоў і простых лядовых палацаў. Нашы ж комплексы вялізныя, але нерэнтабельныя. Зноў жа, пакоўзацца на каньках ці паездзіць на лыжах практычна няма дзе. Калі адкінуць хакей, у які бухаюцца проста вялізныя па беларускіх мерках грошы, і біятлон, які ўжо няўхільна дэградуе, у астатніх зімовых відах Беларусь — абсалютны аўтсайдар. Вось зараз на чэмпіянаце Еўропы па фігурным катанні наша прадстаўніца заняла 36-е месца з 36-ці ўдзельніц. Не сумняваюся, што каб спаборніц было 70, то і тады яна стала б апошняй. Дарэчы, нядаўна высветлілася, што суткавыя ў нашых фігурыстаў складаюць 14 800 рублёў (крыху больш за паўтара долара).

І з Кітаем нас няма чаго параўноўваць. Там як на канвееры „зорак" спорту палкамі выб'юць з мільярда адабраных. Нашы ж юныя таленты ўсё больш з'язджаюць за мяжу. А браць прыклад у спорце Беларусі трэба з балканскіх, скандынаўскіх, краін усходне-сярэдняй Еўропы...

Наш вечаровы пошук спартовай рэлаксацыі ў той раз скончыўся ўрэшце бутэлькай гарэлкі і закускай у адным з бараў. Вось тут мы сапраўды наперадзе планеты ўсёй — ад апошняга невядомага трактарыста — да славутага штангіста — алімпійскага чэмпіёна. А вы кажаце: здароўе нацыі...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Казка для Нявіннічкаў



Пан Фірлёнак заснуў, і, як ні дзіўна, адразу прачнуўся. Па сутнасці прачнуўся ў сне, ды не ў сваёй хрухляватай постаці, толькі ў асобе старога, сытага ад тлустых рыб маржа, які балдзеў пасля сняданку выгравацца на нагрэтых Сонцам камянах і падрэмваць... і перавальвацца з боку на бок, і не турбавацца нічым, і мець усё-ўсенька ў задніцы.

Якраз да мыса, дзе морж вылежваўся ад часу сытнага спажыцця тлустай рыбкі на разагрэтых камянях, падплыў айсберг. Як жа гэтая лядовая гара цудоўна іскрылася на Сонцы! Як захапляла!

— Які ж прыгожы айсберг! — падумаў морж, вышчэрыўшы да лядовай гары свае страшныя жоўтыя зубішчы.

Ды такая і ёсць краса маржоў! Калі яны сардэчна заўсміхаюцца, выглядае гэта пагрозліва. А калі хвалююцца, тады красамоўна маўчаць.

— Ды ўсё ж гэта дзіўнавата... — фукнуў праз нос тоўсты брыдкі морж.

— Ты штось сказаў, — пацікавілася лядовая гара.

— Што я сказаў!? — здзівіўся морж. — Ага... — прыгадаў сабе: „Ды ўсё ж гэта дзіўнавата...".

— Як ты пасмеў! — гыркнула гара і глянула на маржа звысоку. — Ты нават не ў змозе зразумець, што для мяне значыць Сонца!

— Ды ж ведаю, — буркнуў морж, плавячыся ў сонечным цяпле. І тут перастаў гаварыць. Глядзеў на айсберг і адчуваў сябе шчаслівым.

— Гэта ўсё? — знервавалася лядовая гара. — Ты нічога разумнага не сказаў. Дасталі вы мяне, ты і гэты каменны мыс! Адыходжу. Прытым ты такі... трывіяльны.

Калі айсбергі кажуць „адыходжу", гэта значыць, што нічога іншага ім у галаву ў той момант не прыходзіць, як толькі напышліва адысці. І лядовая гара адплыла.

Стары морж пырскунуў праз нос, што было знакам найбольшага хвалявання, ды нічога не сказаў. Такая натура маржоў. Бо калі маржы маўчаць, дык што можна сказаць?

Тым часам айсберг, пацеючы ў Сонцы, плыў штораз далей і далей на поўдзень. Цёплыя акіянічныя плыні вымывалі з яго вялікія лядовыя кусы; тапіўся ў вачах, тым не менш надалей быў захапляюча прыгожым. Толькі хто мог гэта ўбачыць?

— Мне цікава, што цяпер робіць стары морж? — шапнула амаль нячутна лядовая гара. Тапілася ўжо так моцна, што стала не большай ад замерзлай кроплі дажджу. Ды і толькі на хвіліну.

— Ах, морж, я хацела б яшчэ раз пачуць, што ты сказаў мне, пакуль я адплыла, — піснула слабым галаскам і расплылася ў моры.

— Што, што, што? — прачнуўся стары морж і неспакойна наставіў вушы. — Ах, гэта толькі марскія хвалі, — супакоіўся. — Аднак гэта дзіўнавата... — прамармытаў, — што нічога больш не хачу, як сказаць лядовай гары, што я яе кахаю. Эх, айсберг, айсберг... — сапнуў праз нос стары морж. І гэта было ўсё што ён сказаў.

Бо бывае, што за маўчаннем стаіць толькі адно слова. А бывае, што калі ў пору яго не выкажаш — нявыказаным ёсць маўчанне.

А пан Фірлёнак? Што ж, прачнуўся, а прачнуўшыся глянуў на будзільнік і крыкнуў:

— Я зноў праспаў!

Каханыя Нявіннічкі, вынікае з таго тое, што калі прачынаецеся ад сну, гэта неабавязкова вы прачнуліся. А калі лічыце, што сапраўды вы прачнуліся, усё роўна. Спіце так далей. Рэчаіснасць — не тое, што нам сніцца. Ну і што, што ўвесь час нам сніцца. Таму ці хочам таго ці не, прачнемся. Дык спіма далей, няхай нам сніцца!

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Заснежаныя амбіцыі



Мела быць супольная акцыя ратавання культуры ў Беластоку, а звялася ў першую чаргу да аўтапрамоцыі сёлетніх „Ювеналій" і Фонду паразумення беластоцкіх вучэльняў, а таксама самога яго лідара Норберта Васілюка — не хаваючага сваёй беларускасці, студэнта Медыцынскага ўніверсітэта, ураджэнца Гайнаўкі. Гаворка пра акцыю-пратэст-хепенінг расчысткі ад снегу падляшскай сталіцы, а ў прынцыпе расчышчанага ўжо раней пляца перад ратушай. Пасля радыкальных скарачэнняў у сёлетніх бюджэтах падляшскай сталіцы і самаўрадавага ваяводства (у гэтым апошнім выпадку гаворка таксама пра незразумелыя пераносенні сродкаў на культурныя ініцыятывы, зробленыя суперак паказанням конкурснай камісіі), удзельнікі заснаванай восенню мінулага года „Вспультуры" (шэраг культурных устаноў і няўрадавых арганізацый) рашылі адрэагаваць. З задумай хепенінга снегаўборкі выйшаў ад імя студэнцкай брацii якраз Норберт Васілюк. І гэтая акцыя не мела з прадпасылкі яго і іншых сяброў „Вспультуры" замяняць магістрат у змаганні з зімой. Ідэя такая паявілася пад уплывам факту, што ў мінулым годзе грошы, зааашчаджаныя на згортванні снегу з вуліц Беластока, значыць, 2 млн. зл., гарадскія ўлады перадалі на Фестываль „Пазітыўныя вібрацыі". Норберт Васілюк і цэлая „Вспультура" мелі і маюць надзею, што і сёлета надвор'е спрычыніцца да таго, што горад зэканоміць на яе зімовых капрызах і гарадская ўлада сыпане зэканомленым грашом на культуру створаную няўрадавымі арганізацыямі, а і ў ваяводстве „цяплей" на яе глянуць. Варта прыгадаць, аб чым я ўжо пісаў, што сёлета няўрадавыя арганізацыі з гарадской касы атрымаюць 1 млн зл., значыць, удвая менш чым у мінулым годзе, а тады было яшчэ тыя 2 мільёны зл. на „Пазітыўныя вібрацыі".

Незалежна ад прысутнасці прадстаўнікоў іншых арганізацый і устаноў, стваральнікаў „Вспультуры", Норберт Васілюк шырока ў СМІ адзначыў, што акцыя снегаўборкі гэта рэакцыя беластоцкіх студэнтаў і гэта якраз ім належыцца асаблівая падтрымка ў культурных дзеяннях. Сяброў „Вспультуры" (яе ўдзельнікам з'яўляецца і „Ніва") кранула такая нелаяльнасць і „прысабечанне" пратэста. У размове са мною Норберт Васілюк не хаваў:

— Гэтая акцыя выйшла ад студэнтаў, а „Вспультура" далучылася. Шчыра прызнаюся, я выдумаў гэтую акцыю.

Пасля снегаўборкі, як гэта вызначана ў час ранейшай сустрэчы „Вспультуры", мела адбыцца дэбата аб становішчы і будучыні культуры ў горадзе і рэгіёне. У выніку канчатковых вызначэнняў, меў прыняць удзел у ёй Яцак Пярунак і дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Анатоль Вап. Абова, аднак, не з'явіліся, з-за — як прызнаўся ў тэлефоннай размове з Норбертам Васілюком Яцак Пярунак — нечакана перагружанага плана заняткаў. Студэнцкі лідар, яшчэ чакаючы прадстаўнікоў ваяводскіх улад, паспеў пахваліцца дасягненнямі студэнцкага руху пад сваім кіраўніцтвам, а нават заявіць, што снегаўборка была ўжо пачаткам сёлетніх „Ювеналіяў". Мела гэта, мабыць, адбыцца пры ўдзеле Яцка Пярунка і Анатоля Вапа. Незалежна ад асабістых амбіцый Норберта Васілюка і групы студэнтаў, якія далучыліся да хепенінга-пратэсту, паводзіны Яцка Пярунка з'яўляюцца — далікатна кажучы — незразумелымі. Паказаў ён, што не гатовы да грамадскага дыялогу, незалежна ад шматлікасці і рэпрэзэнтатыўнасці тых, якім залежыць на такім дыялогу, дыялогу аб культуры. Ці мо чагосьці баяўся? Калі так, дык чаго?

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

*Да юбілею Літаратурнага аб'яднання* **БЕЛАВЕЖА**

Сяргей ЧЫГРЫН

# Цэп і серп Алеся БАРСКАГА




Што такое серп — ведаюць усе. З дзяцінства памятаю вершаваны радок: серп і молат — смерць і голад. Пачуў я гэтую рыфмоўку ад старэйшых вяскоўцаў, але чаму яны так казалі — не разумеў, толькі бачыў гэтыя серп і молат на сцягах Савецкага Саюза. А вось як людзі ў вёсцы працавалі цэпам я ўжо не застаў, але яго бачыў. Ды і цяпер у старой бацькоўскай хаце ў вёсцы захоўваюцца два цапы. Для тых, хто не ведае, што такое цэп, скажу толькі, што гэта ручная прылада для малацьбы збожжа. Яна складаецца з доўгага драўлянага дзяржання — цапільна, да якога гужыкам і прывязкамі прымацоўваецца біч. Ды што гэта я пра цэп і пра серп. У Алеся Барскага „Аб цэпе і сярпе" ёсць цэлы раздзел у новай яго кнізе „Выбраныя творы", што ў мінулым годзе пабачыла свет у Мінску ў выдавецтве „Кнігазбор" у вядомай серыі „Беларускі кнігазбор", заснаванай у Беларусі яшчэ ў 1996 годзе: „Напэўна, старэйшыя дасканала памятаюць малацьбу цэпам зімою. Дваццаціградусны мароз, дзьме ў клуню вострым снегам шалёны вецер. Пад дзвярыма кладзеш некалькі кулёў, каб паўстрымаць гэтых шаленцаў, але яны знаходзяць сотні дзірак і шчылін, каб уваравацца на ток і залезці пад тваю мізэрную ватовачку. Адзіны ратунак — варушыцца ды моцна лупіць цэпам. Ну і лупілі ад раніцы да вечара. Лічыш снапы, а іх усё многа і многа, абмалочаных жа мала і мала. Калі, аднак, пасля такой катаржнай работы прыходзіў чалавек дахаты і клаўся спаць, тады, каб заснуць, не трэба было ніякіх параных макавак. Засынаў ён за некалькі дзесяткаў секунд. Цяпер у мяне ў варшаўскай кватэры стаіць мой галоўны вораг і галоўны эксплуататар — бацькоўскі цэп... Вісіць у мяне таксама і матчын серп...".

Так пачынаецца другі раздзел „Выбраных твораў" Алеся Барскага, які мае назоў „З пабачанага і перажытага". А першы раздзел кнігі — паэтычны. Ён амаль цалкам прысвечаны Беласточчыну краю і землякам. Але гэта не прасценькія вершы-рыфмоўкі, лёгкія для чытання і насталгічныя аб тым, што было і што ўсё прайшло. Гэта арыгінальныя і шчырыя знаходкі, якія розняцца паэтычным настроем, рытмікай, мелодыкай, тэматыкай. Галоўны герой гэтых вершаў — асоба, якая вырасла на Беласточчыне, якая ўвабрала ў сваю душу зямлю, неба, лес, пушчу, людзей, іх лёсы. У Польшчы два вялікія паэты — гэта Віктар Швед і Алесь Барскі, у якіх тэма Бацькаўшчыны гучыць заўсёды: і ў вершах, і ў прозе, ва ўспамінах, і ў выступленнях, і ў сустрэчах. Гэта тэма вельмі вострая, пачуццёвая, шчырая да слёз. І творы на гэту тэму чытаюцца, слухаюцца, захапляюць. Алесь Барскі прызнаецца, што толькі на Беласточчыне ён „вольны тут, душой адпачывае". Ён дзякуе Айчыне за ўсё, найперш, за лясы яе, за водар глебы і скібы, за працавітыя далоні, за радасць і смутак, за хлеб і песню, за дарогі і волю:

*За ўсё гэта ў час нараджэння,*
*За ўсё гэта ў час маладосці,*
*За ўсё гэта ў момант канання,*
*Шчыры дзякуй, Айчына!*

Наогул, падзяка Радзіме, вера лёсу, гімн хлебу і песні Айчыны гучаць у паэзіі Алеся Барскага пастаянна. Асабліва гімн хлебу, жыту, полю. Вершы паэта моцныя сімволікай каласоў, жыта, снапа, сярпа, песні. Паэтычны дар Алеся Барскага, на мой погляд, моцны перш за ўсё канкрэтнасцю паказу, ёмістасцю паэтычных дэталяў, у іх — спакойны, разважлівы роздум аб нашым жыцці і аб мінулым, аб родных Бандарах, дзе нарадзіўся, дзе жылі бацькі. Сваю вёску Бандары паэт параўноўвае з Варшавай, ды куды там нейкай Варшаве да Бандароў Барскага, дзе добра прадуцца вершы, дзе светла думаецца:

*Бандары для мяне*
*Аграмаднай Варшавай,*
*А я ў Бандарах*
*Малы і вялікі.*
*Там вецер прыкліч,*
*Здзьмухну пажар сонца,*
*І з хмары зялёнай*
*Пахучага сена*
*Спраду верш.*

Прадуцца вершы ў Алеся Барскага і пра каханне. Памятаю, здаецца, травень 1981 года. Мінск, філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Магчыма тады на факультэце была юбілейная вечарына прафесара Алега Лойкі. На гэтай вечарыне выступаў і Алесь Барскі. Высокі, у светлым касцюме, дый нядаўна яму споўнілася толькі пяцьдзесят. Калі госць пачаў выступаць — зала прыціхла. А ў зале былі амаль адны студэнткі-філфакаўкі. А калі Барскі прачытаў вершы пра каханне з трохі такой сексуальнай афарбоўкай — зала гучна заапладзіравала, а нехта з дзяўчат крыкнуў: „Брава!". Адна з маіх аднакурсніц сказала: „Я ў гэтага беларускага паэта з Польшчы проста закахалася". Час тады быў няпросты, такі, калі казалі, што ў Савецкім Саюзе сексу проста няма. Але Алесь Барскі ўнёс у альма матэр беларускай маладой філалогіі нейкі агеньчык свабоды, адкрытасці, кахання. Ды ці можна такому вобразу не парадавацца, не ўсміхнуцца:

*Грудзі твае — урачыстасць,*
*Як сад, што зацвіў у нядзелю...*

Вось такі ён Алесь Барскі ў паэзіі — шматгранны, шматвобразны, шчыры, арыгінальны.

Другая частка „Выбраных твораў" — празаічная. Тут ён згадвае не толькі пра маленства з сярпом і цэпам, але і пра „пісьмо беларускага народа Вялікаму Сталіну", пра калектывізацыю і кулакоў, пра першыя дні акупацыі, пра дзяржаўнасць і нацыянальнасць.

Друкуецца ў кнізе і п'еса аўтара „Гарадскія госці" — гэта камедыя з вясковага жыцця.

Вялікім раздзелам кнігі Алеся Барскага з'яўляецца раздзел „Літаратуразнаўства, крытыка". Распачынаецца ён артыкулам, прысвечаным беларускаму літаратурнаму руху ў Польшчы ў 1958-1998 гадах. Аўтар падкрэслівае, што „беларускі літаратурны рух у пасляваеннай Польшчы — з'ява ўнікальная як у сваёй фармальна-жанравай спецыфіцы, так і ў тэматычных асаблівасцях". Вядома ж, усіх творчых людзей Алесь Барскі не згадаў, ён нават за гэта просіць прабачэння. Тым не менш аўтар лічыць, што найвыдатнейшым здабыткам кожнага творцы з'яўляецца яго індывідуальная, асабістая кніга твораў. А такіх кніжак ужо за 50, больш чым 10 беларускіх літаратараў Польшчы прыняты ў Саюз польскіх пісьменнікаў і ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Асобныя вялікія артыкулы ў кнізе аўтар прысвяціў жыццю і творчасці Георгія Валкавыцкага, Віктара Шведа, Васіля Баршчэўскага, Міколы Гайдука, Віктара Рудчыка, Сакрата Яновіча, Яна Чыквіна. Не абышоў бокам і літаратурную спадчыну Кастуся Каліноўскага, камізм у творчасці Якуба Коласа, сказаў свае слова і пра абрады беларусаў, звязаныя з нараджэннем і хрышчэннем.

Аналізуючы творчасць вышэй названых літаратараў, Алесь Барскі падкрэсліў і вызначыў у паэзіі Юркі Зубрыцкага касмічныя матывы. Усе вершы Віктара Шведа на думку Барскага, — гэта рыфмаваныя апавяданні альбо мікрааповесці аб чымсьці ці аб кімсьці, гэта лагічны выклад, у якім ёсць уступ, кульмінацыя і заканчэнне. „Усё гэта, — піша крытык, — набліжае творчасць Віктара Шведа да традыцыйных літаратурных узораў".

Пра Васіля Баршчэўскага, які 8 гадоў працаваў у беларускім тыднёвіку „Ніва" ў Беластоку, і несумненна прычыніўся да яго росту публіцыстычнага і журналісцкага ўзроўню, Алесь Барскі прыгадвае першыя навелы і апавяданні Васіля Баршчэўскага, падкрэсліваючы, што празаік на працягу свайго творчага шляху стаяў на грунце паслядоўнага рэалізму і яго не цікавілі фармалістычныя эксперыменты. Васіль Баршчэўскі лічыў, што традыцыйны рэалізм не вычарпаў усіх сваіх магчымасцей і што ў іншую эпоху ён можа прыносіць добрыя мастацкія вынікі.

Пра Міколу Гайдука, як паэта, і які ў 1988 годзе выдаў сціплы зборнічак „Ціш", Алесь Барскі прызнаўся, што паэтычныя дасягненні яго значна ўступаюць яго яго ягонай прозе. Яно, сапраўды, так. Адна толькі кніга „Паратунак" (Мінск 1993) чаго вартая, якую склалі гістарычныя публікацыі Міколы Гайдука. Спадар Барскі адзначае: „Гістарычныя апавяданні Міколы Гайдука маюць эстэтычны характар. Яны яскравяцца падзеямі і здарэннямі, у якіх дамінуюць жывыя эмоцыі: прыязнь і нянавісць, каханне і варожасць, прывязанасць да роднага пейзажу і краявіду".

Ілюстратарам беларускага жыцця назваў Алесь Барскі Віктара Рудчыка, які з сярэдзіны 1960-х гадоў у „Ніве", у „Беларускім календары" пачаў друкаваць свае апавяданні, якія адзначаліся добрымі мастацкімі якасцямі. На вялікі жаль, Віктар Рудчык рана пайшоў з жыцця, пражыўшы толькі 55 гадоў. Але без сумнення, без Рудчыкавых, як піша Алесь Барскі, празаічных твораў беларускі літаратурны рух у Польшчы быў бы бяднейшым.

Аўтар „Выбраных твораў" Сакрата Яновіча лічыць найбольш плённым пісьменнікам сярод усёй плеяды „белавежцаў". Аднак вядома, што незалежна ад таго, што ён напіша, гэта будзе праява болю і горкага задумення над беларускім лёсам.

Ян Чыквін, на думку Барскага, паэт лірычнага задумення, паэт, які са значнай паслядоўнасцю, а нават напорыстасцю шукае першакрыніцы свае чалавечай тоеснасці.

Завяршае „Выбраныя творы" Алеся Барскага цыкл нарысаў пра Амерыку, дзе ў кастрычніку 1987 года ён пабываў. Свае разважанні пісьменнік пачынае ўжо з самалёта, а потым іх працягвае ва ўніверсітэце, бібліятэцы, на вуліцах, аўтамашынах, сустрэчах з беларусамі Амерыкі, найперш з беларускім спеваком Данчыкам, з Вітаўтам Кіпелем і іншымі. А калі вярнуўся ў Польшчу, то прыйшоў да высновы, што Амерыка насамрэч вельмі цікавая краіна.

Добрую прадмову да кнігі Алеся Барскага напісаў вядомы беларускі літаратуразнавец Міхась Тычына. Усе старонкі выдання я ўважліва прачытаў, але потым зноў вярнуўся на старонку 68 і спыніўся зноў вось на гэтых радках: „Часта падыходжу да цэпа, але не бяру яго ў рукі. Ён мне страшэнна абрыд, і яго зненавідзеў. А серп матчын кранаю, праводжу пальцам па вастры і бачу тады далёкае дзяцінства, спелае збожжа, шчодрае сонца, дабраслаўлёную пару жніва, святую і прачыстую постаць — з сярпом і збожжам у руках — сваю МАЦІ". Гэтыя радкі можна смела паставіць эпіграфам да ўсіх „Выбраных твораў" таленавітага, шчырага і мудрага жыццём Алеся Барскага.

## Дзе купіць „Ніву” ў Беластоку?

У суботу 12 студзеня г.г. я пацікавіўся, дзе ў Беластоку можна купіць наш родны часопіс „Ніву”. Шукаў наш беларускі тыднёвік перш-наперш у кіёсках „Рух”. „Ніва” была ў продажы ў кіёску па вуліцы Ліпавай побач прадуктовай крамы „Ратушовай”, у цэнтры горада каля Кааператыўнага гандлёвага дома „Цэнтраль”, па вуліцы Мальмеда, па вуліцы Васількоўскай, па вуліцы кардынала Вышынскага, каля скрыжавання Алеі Пілсудскага і вуліцы Чанстахоўскай, ды па вуліцы Браніцкага перад сядзібай павятовага старосства. У іх заўсёды можна купіць беластоцкі беларускі тыднёвік (маюць па 3-5 экземпляраў). Найбольш „Нівы” прадаюць у кіёску „Рух” каля скрыжавання вуліц Васількоўскай і ген. Андэрса. У ім прадалі 37 экземпляраў „Нівы” з календаром на 2013 год. І яшчэ маюць.

Кіёск „Рух” па вуліцы кардынала Вышынскага (каля Маршалкоўскай управы) мае яшчэ 30 экземпляраў „Нівы” з календаром. У прыватным газетным кіёску на гэтай самай вуліцы каля пасялковай крамы „Камета” прадалі 15 экземпляраў „Нівы” з календаром і больш не маюць. У іншых кіёсках — як мяне паінфармавалі — прадалі па 5-10 экземпляраў нашага тыднёвка з календаром. У адным кіёску па Алеі Пілсудскага адмовілі мне ў інфармацыі аб колькасці прададзеных „Ніў” з календаром, засланяючыся гандлёвай таямніцай.

У пошуках „Нівы” я наведаў 15 кіёскаў у розных пунктах Беластока. Вывад мой такі, што калі хто захоча купіць беларускі тыднёвік, дык ёсць дзе яго купіць. Шкада, што няма „Нівы” ў кіёсках на вакзалах ПКП і ПКС.

## У Гайнаўцы не купіце „Нівы”

У суботу 5 студзеня г.г. я цікавіўся, дзе ў Гайнаўцы можна купіць наш родны часопіс „Ніву”. Шукаў я тыднёвік № 1 ад 6 студзеня 2013 года перш-наперш у кіёсках „Рух”. У мінулым годзе „Ніва” была ў продажы ў кіёсках „Рух” па вуліцы 3 Мая і Пілсудскага ды ў прыватных па вуліцы 3 Мая, Ліпавай і Арміі Краёвай. Зараз усе кіёскі наглуха закрыты і стаяць пустыя. А яны ж у цэнтры горада.

Спытаўся я пра „Ніву” ў прыватным кіёску пры жылым блоку № 37 па вуліцы 3 Мая. Толькі гэты адзіны быў адкрыты. Прадавец сказаў мне, што наш беларускі штотыднёвік быў яшчэ да канца 2012 года, а зараз яго не прывозяць.

Цяпер у павятовым горадзе ўсяго тры газетныя кіёскі, у тым ліку адзін у бальніцы ў канцы вуліцы Ліпавай. Гэты апошні знаходзіцца тры кіламетры ад цэнтра горада.

Пайшоў я на пошту па вуліцы Аляксея Зіна і тут у продажы „Нівы” не было.

Чаму ў пачатку 2013 года ў Гайнаўцы няма „Нівы” ў продажы? Хто мне адкажа на гэтае пытанне?

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**






Здымак старых Крынак (з калекцыі аўтаркі тэксту)

Іаанна ЧАБАН

# Дзеткі аднаго Бога

Са спадарыняй Альдонай, так назвала я гераіню гэтага артыкула, сустрэлася я выпадкова ў аўтамабілі знаёмага. Стары, невялікі „Фальксваген” вёз прадстаўнікоў некалькіх пакаленняў крынчан у сталічны Беласток. Кожны з іх ехаў туды па сваіх справах, будучы героем асобай, не падобнай на другую, казкі. Некалькі супольна праведзеных хвілін у безумоўна блізкім кантакце зімовай вопраткі пасажыраў здрадзілі, што побач са мною сядзіць чалавек, які ў змозе паскладаць гэтыя лёсы ў супольную кніжку пад загалоўкам „Дзеткі аднаго Бога”. Акуратная польская мова, арыстакратычны, спакойны выраз твару і добрыя манеры маёй спадарожніцы здраджвалі, што маю дачыненне з чалавекам непасрэдным. Спадарыня Альдона пазітыўна паставілася да зацікаўлення яе асобай. „Мая хата стаіць напроціў крыжа, — аб’яснiла яна, — лёгка мяне знойдзеце”.

Я рашыла не замаруджваць візіту і ўжо праз некалькі дзён з’явілася пад указаным мне адрасам. Спадарыня Альдона не скрывала задавальнення ад сустрэчы, папрасіла зайсці ў цёплы, гасцінны пакойчык. Хаця ногі выразна ёй не слухаліся, яна зараз жа справілася з накрыццём стала, на якім паявілася, між іншым, лепшая хатняя настойка і ласункі.

Гаспадыня згодна была падзяліцца гісторыямі свайго жыцця з чытачамі беларускай „Нівы”, але пажадала захаваць ананімнасць. Усё ж такі сучасныя крынчане не заўсёды пазітыўна ставяцца да прыметніка „беларускі”.

Мая субяседніца з’явілася на свет семдзесят пяць гадоў таму назад у крынскай каталіцкай сям’і. Выхоўвалася ў польска-беларускім двухмоўі.

— Тут кругом многа праваслаўных жыло, — пачала яна, — якія ніколі па-польску не размаўлялі. На вуліцы заўсёды гаварылася папросту. Нават і цяпер як хто да мяне звернецца папросту то я ніколі яму па-польску не адкажу. Дзеці часам мяне за гэта папракаюць. Бывае, прыедзе зяць з Цеханоўца, то ні слова ад мяне не зразумее. З суседзямі я ніколі не канфліктавала. Заўсёды разам на лавачцы сустракаліся, на пахаванне адзін да аднаго хадзілі: мы ў царкву, яны да нас, у касцёл. Калісь я вельмі любіла хадзіць на царкоўныя шлюбы, яны вельмі прыгожыя. Гэтыя спевы так мне запалі ў сэрца што я, мабыць, на памяць навучылася цэлай вянчальнай службы. Уся моладзь з нашай вуліцы па нядзелях туды напраўлялася. Не міналі мы таксама і вясельных гулянняў, дзе танцавалі, між іншым, кракавяк, каробачку і лысага. Мая ўнучка таксама па-праваслаўнаму вянчалася. То я перад шлюбам ёй расказвала, як пад залатой каронай ёй праспяваюць „Палажыў на главах іх вянцы”. Я ўсё ж гэта добра ведаю. Мы ж дзеткі аднаго Бога і аднолькавае „Ойча наш” гаворым. Я вельмі цікаўлюся царкоўнымі справамі. Мой нядзельны тэлевізійны сеанс заўсёды пачынаецца з перадачы „Pod Twoją obronę”, а канчаецца „U źródeł wiary”. Сын толькі са смехам каментуе: „Што, наглядалася ўжо?”. Я ведаю чым займаюцца вашыя манашкі, ведаю айца Гаўрыіла з Адрынок, знаю як Іардан у вас святкуюць.

Глыбокая духоўнасць, спалучаная з любоўю да спеву, была галоўным зместам 75-гадовага жыцця спадарыні Альдоны. Ужо будучы малой дзяўчынкай дапамагала мясцовым законным сёстрам у прыбіранні і ўпрыгожванні крынскага касцёла. Няраз улазіла на высокі плот ксяндзоўскай плябаніі, каб нарваць белага бэзу ў алтар.

— У часах майго дзяцінства жылі тут тры манашкі, — працягвае мая субяседніца. — Яны, між іншым, займаліся вышыўкай касцельных прылад. Сястра Ружа прыгожа іграла на піяніна, якое заўсёды стаяла пад амбонай. Яна збірала крынскіх дзяцей на штотыднёвыя заняткі па набожных спевах. Я з маімі сяброўкамі таксама ў іх удзельнічала. Калі нам споўнілася пятнаццаць гадоў, арганіст па прозвішчы Пулторак забраў мяне, Марысю, Ядзю і Стасю ў свой хор. Там чакала нас сур’ёзная, мастацкая праца. Не было лёгка, але мне вельмі падабалася. Усе творы выконваліся палатыні. Па сёння помню гэтыя цуднагучныя лацінскія малітвы. Хор дзяліўся на чатыры галасы, я была асноўнай падтрымкай альтаў. Пулторак падбіраў няпростыя кампазіцыі, трэба было добра арыентавацца, у які момант увайсці са сваёй партыяй. Многа мы трэніраваліся. Рэпетыцыі ў прыкасцельнай арганістоўцы вяліся тры разы ў тыдзень. Па аўторках сустракаліся дзяўчаты, па чацвяргах — мужчыны, а па суботах — усе разам. Ніколі не забуду цудоўных велікодных набажэнстваў. Да іх рыхтаваліся мы найбольш, але і рэзультат быў надзвычай удалым. Штогод хор урачыста адзначаў свята сваёй патронкі, святой Цэцыліі. Пулторак быў асаблівым арганістам. Ён добра арыентаваўся не толькі ў касцельнай музыцы, але і ў тэатры. Разам з харыстамі рыхтаваў вельмі цікавыя спектаклі. Гэта былі доўгія, рэлігійныя сюжэты: „Жыццё святой Генавефы” ці „Таямніцы споведзі”. Іх паказвалі на сцэне мясцовага і сакольскага дамоў культуры. Гэта быў сапраўдны тэатр, — з захапленнем успамінае спадарыня Альдона.

Усё закончылася ў 1962 годзе з момантам пераезду Пулторака ў Беласток. У тым часе, на працягу 1950-х гадоў у Крынках працаваў польскі народны хор пад кіраўніцтвам прыезджага музыканта Пухальскага і мясцовага гарманіста, пакойнага Франка Будроўскага. У гэтым калектыве апынулася і наша гераіня. З хваляваннем успамінае тадышні рэпертуар. У галаве назаўсёды засталася ёй жартаўлівая песня „Panienki wierne są, jednego kochać chcą, jak przyjdzie ten czyów, kochają obydwóch”. Некалькі дзесяткаў гадоў пазней, у 1993 годзе ў Крынках арганізавалі чарговы хор польскай песні „Pogodna Jesień”. Спадарыня Альдона, нягледзячы на спецыяльнае запрашэнне, адмовілася ад удзелу у гэтай ініцыятыве. Да апошніх сіл засталася вернай толькі касцельным спевам і прынцыпам Божай любові да другога чалавека.

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Не было б „Граніцы” без мытнікаў

Амаль на дзвесце каштоўных экспанатаў узбагацілася калекцыя Музея Сакольскай зямлі. Мытная палата з Беластока перадала прадметы, якія на працягу апошніх гадоў удалося канфіскаваць мытнікам на польска-беларускай мяжы. Сярод гэтага знайсці можна штодзённыя прылады, такія як лыжкі, салянкі, музычныя інструменты ды ювелірныя вырабы, а нават іконы.



Злева: намеснік бурмістра Саколкі Кшыштаф Шчэбёт, старшыня Мытнай палаты Міраслаў Сянкевіч, намеснік бурмістра Саколкі Пётр Буйвіцкі

У суботу 26 снежня ў Музеі Сакольскай зямлі адкрылася выстаўка пад загалоўкам „Граніца”. Новыя экспанаты прыцягнулі да музея натоўп людзей. У мерапрыемстве ўдзельнічалі таксама прадстаўнікі Мытнай палаты і ўлады Саколкі.



Мундзір мытніка з 1920 года



Прадметы канфіскаваныя мытнікамі на граніцы

Намеснік бурмістра Саколкі Пётр Буйвіцкі, які сам амаль дзесяць гадоў працаваў мытнікам, прызнаецца, што асабліва ўключаўся ў справу перадачы экспанатаў музею.

— У мінулым годзе змяніўся закон, які не дазваляў перадаваць такія экспанаты муніцыпальным музеям. Карыстаючыся новай сітуацыяй управа горада Саколкі звярнулася да дырэктара Мытнай палаты ў Беластоку Міраслава Сянкевіча з просьбай аб перадачы музею экспанатаў, якія безумоўна маюць гістарычную вартасць.

Асобы, якія наведалі музей, мелі магчымасць прыглядзецца старым фотаапаратам, прасам на вугаль, акардэонам, а нават грамафонам. Гэтыя апошнія, хаця ўжо ім амаль сто гадоў, цешылі вуха перадваеннымі песнямі з вінілавых кружэлак. Сярод экспанатаў апынуліся таксама два фартэпіяна. Гэтыя мытнікі затрымалі ў мінулым годзе ў Будзіску. Кантрабандысты хацелі перавезці ў іх 4 тысячы пачкаў цыгарэт.

— Усе прадметы былі кваліфікаваны як старадаўнія, — адзначыў прадстаўнік Мытнай палаты Мацей Чарнэцкі. — Усе яны паходзяць з XIX і першай паловы XX стагоддзя.

Падляшская Мытная палата ўжо раней перадавала музейным установам прадметы, якія ўдалося затрымаць на мяжы. Дзякуючы таму паўстаў Супрасльскі музей ікон, да якога трапіла амаль тысяча святых абразоў, якія паходзяць з кантрабанды.

У час адкрыцця выстаўкі „Граніца” апрача каштоўных экспанатаў, спыненых на мяжы, можна было паглядзець прадметы звязаныя з гісторыяй мытнай службы.

— Мы вельмі хацелі да выстаўкі дадаць прадметы неяк звязаныя з мытнай службай, — адзначыла Аляксандра Плюта з Музея Сакольскай зямлі. — На пачатку думалі аб гэтым, каб дастаць здымкі або хаця дазвол на выкананне здымкаў на польска-беларускай мяжы. Пазней аказалася, што можам паказаць у музеі прадметы, звязаныя з работай мытнікаў. Асабліва для мяне гэта вельмі спадабалася, таму што гэта неяк дапаўняе выстаўку. Без мытнікаў не было б гэтых экспанатаў у нашым музеі.

Хаця прафесія мытніка, як падкрэслівае Мацей Чарнэцкі, з'яўляецца адной з самых старажытных, гістарычныя памяткі амаль не захаваліся да нашых дзён.

— На такую сітуацыю напэўна паўплывалі гістарычныя здарэнні, якія мелі месца на нашай зямлі. Таму памяткі, якія можна паглядзець у сакольскім музеі, паходзяць галоўным чынам з міжваеннага перыяду.

Сярод іх апынуліся вартыя ўвагі боты, у абцасах якіх былі зроблены адпаведнай велічыні адтуліны. У тых жа адтулінах кантрабандыст, якога затрымалі ў 1970 годзе, схаваў царскія залатыя рублі. Апрача ботаў, якія сведчаць аб вынаходлівасці кантрабандыстаў, можна было даведацца як выглядала вопратка мытніка міжваеннага перыяду ці прылады, якімі мытнікі карысталіся ў час кантролю.

Дата адкрыцця выстаўкі пад загалоўкам „Граніца” супала з міжнародным святам Мытнай службы. З гэтай нагоды ўлады Саколкі ўручылі старшыні Мытнай палаты Міраславу Сянкевічу памятны гравертон.

Частка выстаўкі з гістарычнымі прадметамі, звязанымі з работай мытнай службы, даступная для гледачоў да палавіны лютага. Экспанаты, якія паходзяць з кантрабанды, можна будзе глядзець да траўня гэтага года.

## Зіма не адпускае

Натура любіць рабіць сюрпрызы. Калі восенню сіноптыкі прадвяшчалі марозную і снежную зіму, я ім не верыў. Да канца лістапада ўтрымоўвалася нулявая тэмпература. Першыя замаразкі з'явіліся з пачаткам снежня. Праўда, у палове месяца тэмпература ўначы спадала да мінус 16 градусаў, але белага пуху не надта выпала. Сапраўдная зіма пачалася ў Чаромхаўскай гміне 10 студзеня, пасля праваслаўных Каляд. Наступнага дня, у пятніцу, паўднёва-ўсходні вецер прынёс завеі і бураны. Пазасыпала сцежкі-дарожкі. Ды штораз снегу прыбаўляецца. Вярнуліся „крашчэнскія” маразы. У пятніцу, 25 студзеня, тэмпература панізілася ўначы да мінус 25 градусаў, а ў нядзелю раніцай было -20 градусаў. У дзень стаяла цудоўнае сонечнае надвор'е пры тэмпературы -13 градусаў. Варта адзначыць, што сёлета дарожныя службы належна спраўляюцца з абавязкам расчысткі дарог. Кузаўская вуліца акуратна расчышчана. Пасля снегападу зараз жа ехалі снегачышчальнікі Павятовага праўлення публічных дарог, затым экскаватары з гміны. У марозныя дні „пяскаркі” з Гайнаўкі пасыпалі дарогі пяском. Праязджаў я ў суботу (26 студзеня) на ровары да сябрука ў канец вёскі. Дарога — хоць каціся. Паколькі раней кузаўскую вуліцу ад царквы ў напрамку чыгуначнага віядука пакідалі на волю лёсу, дык пасля таго, што пісала „Ніва” і маіх заўваг у гміне справа рашуча выправілася. І так быць павінна! Бо зіма не адпускае. Набліжаецца люты. А кузаўскія старажылы напамінаюць: „Ляцькуха” — снегу па вуха. Усё ж такі „Масленіца” вось, вось перад намі!...



## Дзень бабулі і дзядулі

21 студзеня ў Гарадскім асяродку культуры, спорту і адпачынку ў Кляшчэлях адзначаўся Дзень бабулі і дзядулі. Арганізатарам мерапрыемства быў гурток Саюза пенсіянераў і інвалідаў у Кляшчэлях на чале са старшынёй Надзеяй Мароз. Суарганізатарам быў мясцовы асяродак культуры. Ролю вядучага выконваў дырэктар ГАКСіА Лявон Алексяюк, які, пазнаёміўшы прысутных з праграмай імпрэзы, перадаў голас бурмістру Ірэне Негярэвіч. Кіраўнік самаўрада павіншавала юбіляраў з нагоды свята ды пажадала ім моцнага здароўя і самых лепшых поспехаў у сямейным жыцці. Да віншаванняў далучыўся ксёндз Ян Красоўскі. Затым удзельнікі сустрэчы разам са святаром згаварылі малітву. У мастацкай частцы выступілі малечы з садка і мясцовы гурт «Міксturкі». Пасля выступлення арганізатары запрасілі гасцей на пачастунак. Застолле адбывалася пры музыцы і песнях. Аматары танца гулялі ў рытм дыска-польных мелодый. «Гэта была сапраўды кранальная сустрэча», — гаварылі бабулькі і дзядулі, прыбыўшыя на імпрэзу са сваімі любімцамі. Такія сустрэчы надоўга застаюцца ў памяці.

Уладзімір СІДАРУК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# Зорка
для дзяцей і моладзі


# Лена і Соня з Валілаў-Станцыі ля Гарадка

— Ці падабаюцца вам зімовыя вакацыі?

— Таааак!

Соня і Лена не сябруюць з лянотай, у іх заўсёды свае справы. Дзяўчаткі ад рання завіхаюцца ля сваіх задач, дапамагаюць маме, чытаюць кніжкі, малююць, апавядаюць вясёлыя гісторыі. Часам у адказ іх жартам пачуецца пяшчотнае мурлыканне. Гэта чорны Фелікс — коцік, які не адступае ні на крок сястрычак. Ён забягае за намі ў пакой Лены, каб разам паслухаць калядкі „Неба і зямля” ў выкананні другакласніцы. Лена вывучае ігру на піяніна. Яна таксама спявае ў дзіцячым калектыве „Казка” ў Гарадку. У старэйшай на два гады Соні таксама мастацкія захапленні. Яе малюнкі пазначылі цэлы дом. Вось яе гісторыя пра „Божае Нараджэнне” красуецца на сярэбранай лядоўні. Дзяўчынка пакажа нам свае малюнкі святых, змаляваныя з іконаў. Соня любіць таксама капіраваць карціны вядомых мастакоў. Вось як цудоўна атрымаўся ў яе „Адпачынак” паводле аднайменай карціны Ван Гога. Зараз перад ёй вялікі выклік — ваяводскі прадметны конкурс па беларускай мове. Соня ўжо фіналістка, да таго адзіная на ўсю гарадоцкую школу. А сама яна толькі ў чацвёртым класе! Ну, але ж не ўзрост вырашае аб поспехах і захапленнях. Важна практыкавацца, развіваць свае здольнасці і заўсёды мець час дапамагаць іншым. Вось на нашу сустрэчу дзяўчынкі разам з мамай падрыхтавалі смачную салатку з гародніны.





— А цмокаў яшчэ любіш маляваць? — пытаем у Соні (яе малюнак з цмокам перамог на Фестывалі культур у Беластоку і мы яго друкавалі ў „Зорцы”).

— Яшчэ люблю маляваць лапы цмокаў, — адказала пасвойму ў арыгінальны спосаб Соня.

Зорка
фота Ганны КАНДРАЦЮК





## Вершы Віктара Шведа

### Хто вінаваты?

Правы язды далі сыну,
А бацька не дае машыну.
— Вучыся, Біблію чытай,
І кудлы з галавы здымай.

— Вучыўся, Біблію пазнаў,
Валос аднак пашкадаваў.
Апосталы ж з валос гурбой.
— Яны ж хадзілі пяхотой!

### Мой тата дзівакаваты

Пасля Калядных мілых свят
Прыйшоў да лекара Ігнат.
Сказаў, што быццам
немаўлятам
Становіцца зноў яго тата.

Апрануўся як дзядуля,
Каб увагу ўсе звярнулі,
Безупынку паўтарае -
Святым стаўся Мікалаем.



# Конкурс пра зіму (5)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Якую гадавіну адзначаюць у Польшчы і Беларусі цягам 2013 года?**

а) 150 гадавіна Паўстання 1863 года,
б) 500 гадоў Падляшскага ваяводства,
в) 100 гадоў ад выдання кнігі Максіма Багдановіча „Вянок”.

2. Дзе нарадзіўся Кастусь Каліноўскі?

а) на Міншчыне,
б) на Беласточчыне,
в) на Магілёўшчыне.

**3. Хто з беларускіх аўтараў атрымаў намінацыю да ўзнагароды Казанэцкага (прэмія прэзідэнта горада Беластока) за 2012 год?**

а) Віктар Сазонаў,
б) Міра Лукша,
в) Юры Баена.

Адказы на конкурс дасылайце да 20 лютага 2013 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі”).

Адказ на конкурс № 1-13: 1 — ад холаду і сцюжы (а); 2 — 55-годдзе „Белавежы” (а); 3 — каза, конь, бусел (б).

Узнагароды — „магічныя фламастары” — выйгралі Уршуля Марчук з Нараўкі і Аляксандра Салавянюк з НШ св. КіМ у Беластоку. Віншуем!

ЗОРКА

№ 05 [03-02-2013]

# Вавёрка і воўк

Воўк ляжаў пад елкаю і спаў. Вавёрка скакала з елкі на елку і звалілася на ваўка. Воўк схамянуўся і хацеў яе з'есці. Вавёрка пачала прасіцца: „Пусці мяне". Воўк сказаў: „Добра. Я пушчу цябе, толькі ты скажы мне, чаму вы, вавёркі, заўсёды такія вясёлыя. Мне вось маркотна, а вы гуляеце ды скачаце". Вавёрка адказала: „Уперад пусці мяне на дрэва, дык тады скажу, а то я цябе баюся". Воўк быў не галодны і пусціў.

Вавёрка ўскочыла на галіну і адтуль сказала: „Табе затым маркотна, што ты злосны. Табе злосць сэрца паліць. А мы вясёлыя, што нам ніколі не хочацца благога рабіць".

*А. Смоліч (паводле Льва Талстога)*

Аляксандра ЯРОЦКАЯ

# Гарадок

**Гарадок, Гарадок,**
**мой родны куток.**
**Тут мой дом і школа,**
**заўсёды вясёла.**

**Тут жывуць мае бацькі,**
**Дзяды і прыгожыя каты.**

**Ёсць дом культуры і бібліятэка,**
**камп'ютары і дыскатэка.**
**Дзейнічае тэатральны кружок,**
**танцавальны і спявачы гурток.**

**Ёсць вялікая царква,**
**здалёк блішчаць яе залатыя купалы.**
**Прыгожыя там фрэскі**
**напісаў сам Навасельскі.**

**Я люблю свой Гарадок,**
**гістарычны Хадкевічаў дварок.**

Фота Міры ЛУКШЫ

# Музыка з кайфам

**Андрусь-мастак**

По прафесіі ён мастак-рэстаўратар. Не абазначае гэта, што малюе ў рэстаранах ці прэзентуе сваё мастацтва спяваючы „да катлета". Рэстаўратар вартае нешта грамадству, дапамагае захаваць яго культуру. Андрусь Такінданг робіць гэта менавіта на шматлікіх палях.

Андрусь Такінданг, калі паявіўся на музычных сцэнах, выклікаў вялікае зацікаўленне. Няшмат ёсць беларусаў з афрыканскім паходжаннем, з чорнай скурай, якія яшчэ і гавораць па-беларуску. Такія ўмовы, сабраныя ў адно, напэўна спрыяюць папулярызацыі тэзісу, што па-беларуску размаўляць можа кожны. У выпадку Андруся сітуацыя склалася яшчэ цікавей. Ён не толькі гаворыць, але і займаецца мастацтвам ды стварае сучасную беларускую культуру, аказваецца, у шматлікіх накірунках.

Часцей за ўсё творчасць Андруся Такінданга асацыюецца са сцэнай. Супольна з сябрамі ён заснаваў гурт „Рэха", музыку якога некаторыя называюць беларускім попам, попфолькам, фольк-мадэрнам. Мне асабіста накірунак „Рэха" гэта з'ява вельмі блізкая да гурту „HandmadE" і фактычна можна сказаць, што яны адметныя ды сабе падобныя ў стылі. І добра, гэта новая якасць. Новую якасць стварае Андрусь таксама ў іншых галінах мастацтва. У апошніх днях паявілася інфармацыя, што перамог ён на кінафестывалі, дзе прэзентаваўся яго відэакліп. Аказваецца, Андрусь шмат рысуе і малюе. Аднойчы прыйшло да яго натхненне і вырашыў намаляваць постаці, якія выступяць героямі ў відэаролiку на песню „Горад" гурту „Рэха". Так стварылася фільмавая гісторыя аўтарства Андруся Такінданга, якая толькі што пачынае жыць. Мы неўзабаве пабачым яе ў сеціве. Пры нагодзе скажу, што Андрусь падкідае цікавыя ідэі. Вось ягоная парада для ўсіх: „Узяць у рукі алавак і нарысаваць час ад часу свой дзень, успамін з падарожжа ці свае думкі. На рысунку застанецца тое, што для нас самае важнае. Але толькі тады, калі адкінем ФАЛЬШЫВАЕ думанне, якое большасць з нас сабе і іншым паўтарае: НЕ ЎМЕЮ РЫСАВАЦЬ".

**i_basovka@o2.pl**

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Юлія ЛЯСОТА

# Зіма

Падае, падае снег.
Дзеці цешацца, гуляюць
і з горкі на санках з'язджаюць.

Мароз за шчокі шчыпае,
але дзецям не перашкаджае.
Яны з хаты выбягаюць
і сяброў сваіх склікаюць.

# Польска-беларуская крыжаванка № 5

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 1:**

Галубы, Ас, мама, святар, свет, ла, пачатак, фота, рацыя. Мак, спор, Ас, сват, вечар, мята, брат, малады, марак.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Кшыштаф Бірыцкі**, **Вікторыя Патонец** з Нараўкі, **Мартына Леанюк**, **Інэз Дмітрук**, **Моніка Зырчук-Жар**, **Наталля Кадлубоўская** з Орлі, **Магдалена Мішчук**, **Оля Мішчук**, **Войцех Куптэль** з Арэшкава, **Адам** і **Анджэліка Сцепанюк** з **Бельска**. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Dąb | | | | Żłobek / Poranek | | | | |
| Ogło-szenie | | Duch | Zasięg, ranga, wymiar | | Świat / Wędka | | | |
| | | Maniera | | | | | | |
| | Moneta | | | | | | | Irka / Marsz |
| | | Balonik | | | | Wir / Czyn | Lira | |
| | My | Tkacz | | | | | Cha! | |
| | Tak | | | Tygrys | | | | |
| Żubr | | | | | Nasz | | | |

1 ☞ працяг

прызначаны Міхаіл Мураўёў, які раней праславіўся задушэннем Лістападаўскага паўстання, а цяпер таксама прымяніў тэрор. Увёў ён калектыўную адказнасць цэлых вёсак за дапамогу паўстанцам, на абшарнікаў увёў кантрыбуцыі, арганізаваў атрады вясковай аховы, быццам задавальняючы заклікі Каяловіча. Паконччыў ён таксама эксперыменты з прымяненнем беларускай мовы, беручы курс на поўную русіфікацыю і ўжо восенню 1863 года паўстанне на Беларусі было задушана.

З беларускага пункту гледжання паўстанне, апрача кароткай успышкі беларускасці, прынесла адмоўныя вынікі. У ходзе паўстання беларускае грамадства падзялілася на два лагеры: каталіцкі — культурна арыентаваны на Польшчу, і праваслаўны з прарасійскім ухілам. Лідары гэтых груповак, спасылаючыся на дабро беларускага насельніцтва, зацята змагаліся ўзаемна. Каліноўскі пужаў, што праваслаўны, які не вернецца ва ўніяцтва, здохне як сабака пад плотам. Каяловіч заклікаў да высялення з Беларусі палякаў, якімі лічыў



Язэп Янушкевіч

католікаў неахвотных прыняць праваслаўе. Гэтае змаганне набыло цывілізацыйны характар і выкапала прорву, якой засыпванне доўжылася працягам двух пакаленняў.

Язэп Янушкевіч з Мінска расказаў пра тэму Студзеньскага паўстання ў беларускай літаратуры. Паўстанне паклікала на свет змагарскія песні, але не толькі. Згаданыя раней выданні, асабліва Каліноўскага, таксама разбудзілі беларускі дух. Доўгі час ён замоўчваўся, але з ходам часу яго постаць стала прабівацца на старонкі беларускай літаратуры. Шырэй пра Каліноўскага сталі пісаць толькі паля смерці Сталіна, м.інш. Уладзімір Караткевіч, Максім Танк, Алесь Якімовіч і іншыя. А сёлета ў Беларусі, апрача адзначання 150-й гадавіны паўстання, будзе адзначацца таксама 180-я гадавіна нараджэння выхадца з нашых Мастаўлян.

Ян Ежы Мілеўскі панаракаў на сціпласць сёлетняга юбілею і прывёў прыклады святкаванняў круглых гадавін паўстання ў мінулым. Напрыклад, зараз пасля вяртання незалежнасці, у 1921 годзе нягледзячы на пасляваенную нястачу, у Беластоку адбыўся парад з аркестрам, палявая імша і прыём. У 1933 годзе, у 70-ю гадавіну паўстання, яго ўдзельнікі, што асталіся ў жывых, атрымалі па 400 злотаў узнагароды, а ветэранаў прыняў сам прэзідэнт Масціцкі... У сёлетніх беластоцкіх святкаваннях афіцыёзу было мала: на непрацяглы час паявіліся прэзідэнт Беластока Тадэуш Трускаляскі, дэпутат Сейма Дар'юш Пянткоўскі, сенатар Богдан Пашкоўскі і генконсул Беларусі Аляксандр Берабеня.

На дакладчыцкім стале ляжала стрэльба, якая прадбачвалася для ўзбраення паўстанцаў. Такія стрэльбы кіраўніцтва паўстання заказала ў ружэйнай фабрыцы ў бельгійскім Льежы. Але мала тых стрэльбаў удалося пераправіць цераз межы з Прусіяй і Аўстрыяй. Шмат прасцейшага ўзбраення паўстанцы выконвалі ў мясцовых кузнях. А гэтага было мала для поспеху.

# *Найбольшая праблема Беластока!*



Чаму Міра Лукша, аўтарка дзевяці кніжак на беларускай мове, напісала свой „Biały stok" па-польску? На гэтае пытанне яна адказала сама:

— Жанчыны, з якімі я цягам апошняга года разам прабывала на аддзяленні анкалогіі, калі пачулі, што я — пісьменіца, пачалі намаўляць мяне: „Proszę coś napisać po polsku, bo jak pani umrze, to nikt w Polsce się nie dowie jaki straciliśmy talent...".

Пісаць на польскай мове для Міры Лукшы, паланісткі па адукацыі, не навасць і не праблема. Яе „Wiersze tutejsze" — арыгінальны паэтычны том (год выдання 2003), у Беластоку быў несправядліва замоўчаны і непрыкмечаны. Добра, што ў апошні час, разам з намінацыяй да літаратурнай прэміі імя Веслава Казанэцкага, вядзецца прамацыйная акцыя вылучаных аўтараў і іх твораў. Першая сустрэча з Мірай Лукшай і Кшыштафам Гедройцем (аўтарам кніжкі „Півоня, нямова, галасы") была наладжана колам паланістаў ва Універсітэце ў Беластоку 24 студзеня г.г. Асноўныя пытанні, якія былі асветлены ў палымяных спрэчках, датычылі мовы і менталітэту жыхароў сталіцы Падляшша. Іх асвятлялі з польскага і беларускага пунктаў гледжання. Аказваецца, па сённяшні дзень горад пазначаны *польска-рускім* канфліктам, — і гэта найбольшая праблема Беластока.

— Калі мы падымаем такую тэму, гэта добра, — гаварыў Кшыштаф Гедройць, — праз гэта мы маем шанц на лепшае жыццё...

Паколькі тэма была зразумелай для студэнцкай аўдыторыі, настолькі насцярожыла старэйшых цётак — беластачанак (сустрэча была адкрытай). Адна з іх, якая назвала сябе сапраўднай патрыёткай і полькай, тых, хто лічыць сябе беларусамі, адаслала ў вядомым напрамку:

— Jak ktoś uważa się za Białorusa, to niech sobie jedzie żyć na Białoruś!

Нездарма Катажына Свіцка-Мяжынская, арганізатарка сустрэчы, яшчэ на пачатку прыгадала лозунг-ключ, якім карысталіся яе студэнты, калі назіралі міжнацыянальныя і міжканфесійныя адносіны ў горадзе: *Kiedy chcesz wszystko wiedzieć o polsko-białoruskich podziałach w mieście, zapytaj babcię!* **(гак)**

■ Тэкст і фота Эвы Вашчынскай

# Белавежскія калядаванні




Праваслаўныя нядаўна адсвяткавалі Хрышчэнне Гасподняе. Існуе традыцыя калядавання ў час гэтага свята. Даўней і ў Белавежы можна было сустрэць каляднікаў на Вадохрышча. Аднак цяпер традыцыйнае белавежскае калядаванне адбываецца 7 студзеня, у першы дзень Божага Нараджэння, пасля вячэрняга набажэнства ў царкве. Я штогод з нецярплівасцю чакаю гэтага моманту, калі хтосьці нечакана пазвоніць у дзверы, а за імі пабачу групу каляднікаў. Мая сям'я заўсёды ахвотна вітае такіх мілых гасцей. Шкада, што з году ў год меншае лік ахвотных калядаваць.

Я асабіста больш сардэчным вокам спаглядаю на тых, хто быў у царкве ды прыносіць нам са сваім спевам шчырую радасць ад нараджэння Ісуса Хрыста. У гэтым годзе радасную навіну прынесла, між іншым, група моладзі з Белавежскага праваслаўнага брацтва, якой кіраваў вікарый ды рэгент белавежскага царкоўнага хору айцец Валеры Пятроўскі. Я пераважна крытычным вухам слухаю, ці калянікі добра спяваюць мелодыю і ці тэкст не пакручаны. Вялікай увагі я не звяртаю на карцінкі на звёздах. Тым больш, што апошнім часам звёзды бываюць не надта ж прыгожыя. Аднак у гэтым годзе на звяздзе ў адной групы моладзі была наклеена велікодная паштоўка з надпісам „Хрыстос уваскрос". А, здаецца, цяжка паблытаць зімовае свята з вясновым...

У час літургіі на другі дзень Каляд белавежскую царкву наведалі госці — хор спелых жанчын з маладым рэгентам. Прыехалі яны ў Белавежу з Беларусі, з вёскі Азяты Брэсцкай вобласці. Я адразу падумала, што магчыма яны будуць наведваць белавежскія хаты з радаснымі калядкамі. (У мінулым годзе на Каляды былі ў Белавежы беларускія госці). Настаяцель храма ў Азятах а. Вадзім Літвінюк расказаў, што групка з дзевятнаццаці асоб з ягонага прыхода ахвотна прыехала ў гасціну да Белавежскага прыхода ўжо другі раз. Грошы, якія ім удасца сабраць, патрэбны на будову царквы ў вёсцы Старое Сяло. На адкрыцце новага храма ўжо запрашаюць белавежцаў.

Пасля поўдня каляднікі з Беларусі зайшлі і ў нашую хату. Жанчыны цудоўна праспявалі калядкі, у тым ліку „А ми люди подорожні". Я з ахвотай далучылася да іхняга спеву. На заканчэнне госці праспявалі гаспадарам многая лета, а мы запрасілі іх за стол. Жанчыны крыху пад'елі, сагрэліся ды з новымі сіламі пайшлі далей разносіць радасную навіну. Дзякуючы візіту суседзяў з Азятаў ды магчымасці прыняць пад сваю страху „падарожных людзей" сёлетнія Каляды сталі непаўторнымі.

* * *

Калядны перыяд усё ж трывае і прыемна паўспамінаць некаторыя важнейшыя моманты, звязаныя са святкаваннем. Канец снежня ды большая частка студзеня гэта час калядавання, сямейнага святкавання, візітаў святароў у хатах, святочных канцэртаў ды гэтаму падобных урачыстасцей.

Дык і калядныя інсцэніроўкі ў школах даволі папулярныя. У белавежскай школе ахвотна гэткія выступленні ладзяцца. У гэтым годзе вучні белавежскай гімназіі ў спектаклі „Віфлеем гэта ж мы самі" пад кіраўніцтвам катэхетаў Гражыны Юзьвік ды Магдалены Заброцкай паспрабавалі паказаць адрозненні паміж захоўваннем традыцыі ды яе разуменнем. Рыхтавалася Куцця. Маладыя людзі паставілі талерку для самотнага вандроўца. Калі аднак пастукалі ў іхнія дзверы нечаканыя госці з просьбай, каб ім дапамагчы, непрыемна іх адсылалі далей. Былі і традыцыйныя біблейскія сцэны. Святую сям'ю наведвалі госці. Пастушкі кланяліся Ісусу, каралі з Усходу прынеслі падарункі — золата, ладан і смірну. Паміж гэтага з'явіліся рэфлексіі сучасных людзей над жыццём. Яны зразумелі, што Божае нараджэнне пачынаецца ў сэрцы кожнага чалавека. Трэба адкрыцца на іншых людзей. Моладзь папраўна праспявала некалькі калядак на польскай ды ўсходнеславянскіх мовах, у тым ліку „По всёму світу", „Нова радость" ці „Nie było miejsca dla Ciebie". Выступленне заключыла папулярная калядная песня „Jest taki dzień". Мне толькі не хапіла супольнай польска-ўсходняй калядкі (можна было б „Ціхую ноч" на розных мовах праспяваць ці „Неба і зямля"). Шкада яшчэ, што публіка не была расспяванай.

Белавежцы мелі магчымасць пагледзець прадстаўленне 10 студзеня ў час каляднага канцэрта ў кіназале. Апрача белавежскіх гімназістаў выступіў гурт „Ручаёк" пад кіраўніцтвам Марка Зубрыцкага. Даўней у Белавежы ў такіх канцэртах прымалі ўдзел царкоўны хор ды схоля Белавежскай рымска-каталіцкай парафіі. Шкада, што сёння больш рэлігійны ды экуменічны характар такіх сустрэч нейкім чынам згубіўся.





Галіна РЭДУХА

## Спатканні

Сёння я зноў запаліла Табе свечку
каб Ты не блудзіў усляпую ў сваім свеце
Дрыжачаю рукою згарнула лісце
каторымі вецер пакрыў Цябе ўначы
Паглянь, я прынесла Табе квятке
гэтыя, каторыя ты любіш
Вярнуліся ўспаміны...
Я памятаю колер Тваіх вачэй
хаця мінула столькі гадоў
Я памятаю Тваю ўсмешку
гэтую апошнюю, гаснучую
Я памятаю Тваю надзею
і Твой страх скрыты глыбока
І хоць сэрца мне дрыжыць
я спакойная
Ведаю што Ты чакаеш мяне
Ведаю што калісьці
возьмеш мяне за руку
і разам паляцім
анёльскім лугам
да святлівых варот
Будзь цярплівы...
Я прыйду...
Ужо неўзабаве...

## Вясна

Прыйшла знянацку
вытужаная, вычаканая
штодзень выгляданая ў акне.
Разблïснула ў праменні сонейка
тысяччу колераў,
Растапіла нам лёд у сэрцах,
каб мы адчыніліся
на новае каханне.
Засыпала нас
зялёнай сочнай травой.
Рассеяла па лонках
пекныя квятке.
Пташке выпусціла з клетак,
каб расспявалі ціхасць.
Паветра пахня каханнем,
дрыжыць неспакойна,
як сэрцы закаханых
у вясеннюю ноч.

## Падай мне сваю даланю, а я...

Павяду Цябе
праз крутыя сцяжыны жыцця.
Ахраню Цябе
перад дажджом людскіх паглядаў.
Навучу Цябе
як кахаць і быць шчаслівым.
Пакажу Табе,
які свет пекны
нават у пахмурны дзень.
Разам знойдзем
кветку папараці
схаваную глыбока ў лесе.
Будзям услухацца
ў песню салаўя
летняю ноччу.
Цэлы свет
станя нам адкрытым.
Толькі прашу,
павер мне і падай сваю даланю.


Павел Марыюш БІРЫЦКІ

## Цудоўны сон

Заплюшчваю вочы
Бачу чорную ноч
Змрок ахутвае час
І бачу святло

Гэтае святло
Гэта мы анёлы
Акрытыя ясным туманам
У густы змрочны дзень

Гэта мы — двое закаханых з Вероны
Ахутаныя адно ў адно, як пялёсткі цюльпана
Квітнеючыя ў нашай вясны
Тым не менш у чаканні дажджу

Ноч змяняецца днём
Хаос парадку
І я прачынаюся
Ведаючы што гэта быў толькі сон

## Жыццё паэта

Можа я не Міцкевіч
І многа мне не хапае да Купалы
Я і так спачуваю што я адзін з іх
Самотны вандроўнік-паэт

Падарожнічаю па зямлі нічыёй
Гляджу на яе пільна
І стаўлю наступныя крокі
У гэтым паэтычным жыцці

У канцы гэтай дарогі
Стаіць смерць з касой
Чакае мяне
Хоць я яшчэ так далёка

## Як?

Як я магу выказаць словамі
Тое, што я адчуваю, што я думаю
Як апісаць гэта
Калі нават не ведаю, што я адчуваю

Гэта не так проста
Як апісаць буру
Гэта не так добра
Як назваць вясёлку пасля дажджу

Але я пішу, як пішу
І жыццё па-ранейшаму круціцца
І ў ім я
Паэт аднаго дня


Гаўрыіл ГРЫНЯВІЦКІ

## Архімандрыт

Архімандрыт Гаўрыіл гэта чалавек цікавы
Ён скіт пабудаваў вельмі хутка
Там дзве капліцы і келлі манахаў
І царква невялікая ёсць там
І ёсць там кладкі і ёсць і пасекі
І вулляў таксама там мноства
І пчол разводзіць і мёд прадае
І там прымае таксама людзей
Ён моліцца раніцай і днём і ўвечар
І ўначы моліцца там
За жывых і памерлых
За хворых моліцца там
Ён зёлкамі лечыць, ён ведае іх элементы
Ён піша таксама рэцэпты
Ён служыць малебны і акафісты
І просіць здароўя для нас

## Вялікі Пост і Уваскрэсенне

І зноў пачаўся Вялікі Пост
І ў царкве ўсё пазмяняецца
І людзі даруюць грахі тым
Што самі просяць прабачэння
І крыж на ім Хрыстос вісіць
У цэнтр царквы выносіцца
Для абажання ўсімі вернымі
І пакланення і радасці
Нягледзячы на гэта што за намі
Ужо Вялікі Тыдзень пачынаецца
А мы чуем тэксты песняў
Аб муках Бога які загінуў
А ў Вялікую Пятніцу ўся зямля
Прабывае ў посце і малітве
І чакае гэтую адну хвіліну
Каб вынесці Плашчаніцу ўрачыста
І ўрэшце надышоў дзень гэты вялікі
Калі Хрыстос з магілы Уваскрасае
Гэта свята ў нас у царкве
Калі спяваецца „Уваскрэсенне"

## Скіт

Недзе за вёскай Адрынкі
Дзе вядзе доўгая кладка
Ёсць адно прыгожае месца
Дзе малая царква знаходзіцца
І адзін манах прыйшоў
На гэтае прыгожае месца
Дзе літургію пачаў служыць
І маліцца непамерна
Ён днём і ноччу стае
Перад сваімі іконамі
І кажа да Ісуса
Памілуй нас таксама
Акурвае свае іконы
Аддаючы падзяку
За пачутыя просьбы
І людзей вылячэнне

# Калядная паштоўка ад Уладзіміра Казберука

Я шчэ летась восенню напісаў я невялікі ліст у Мінск літаратуразнаўцу, кандыдату філалагічных навук Уладзіміру Казберуку і задаў яму некалькі пытанняў. Мяне цікавіла, як пажывае 90-гадовы пісьменнік, ці пішацца яму што, аб чым думаецца. Але доўга вестак ад яго не было. Ды і я не хацеў больш турбаваць сталага чалавека. І раптам сёлета перад праваслаўнымі Калядамі атрымліваю ад Уладзіміра Міхайлавіча калядную паштоўку з віншаваннямі і адказамі на мае пытанні. Аўтару гэтага матэрыялу, усім беларусам Беласточчыны, а таксама землякам з родных Бандароў, Уладзімір Казберук жадае моцнага здароўя і „ўсяго, што ў жыцці патрэбна".



Уладзімір Казбярук

**— Уладзімір Міхайлавіч, ці часта цяпер сядаеце за рабочы стол пісьменніка?**

— Апошнім часам адчуваю сябе так, што за пісьмовы стол ужо не сядаю. Але зборнік успамінаў пра Максіма Танка я падрыхтаваў яшчэ ў мінулым стагоддзі (гэта значыць, у мінулым тысячагоддзі), але ён яшчэ не выйшаў з друку.

**— Аб чым думаецца сёння Вам з вышыні 90-гадовага беларускага літаратара? Дарэчы, Вы самы старэйшы беларускі літаратар з Беласточчыны, які, дзякаваць Богу, яшчэ жыве і думае пра нашу культуру і літаратуру.**

— Я ўжо не даю рады сачыць за сучасным літаратурным працэсам, бо мала што чытаю. І таму пра асаблівасці літаратурнага працэсу такога ўяўлення не маю, як гэта было раней. За рабочы стол не сядаю, хаця мне шмат чаго трэба было б зрабіць. Ёсць важныя задумы, якіх я ажыццявіць не паспеў. Калісьці вядомы даследчык літаратуры Генадзь Кісялёў у адным з артыкулаў пісаў, што мне вельмі карысна было б скласці зборнікі артыкулаў, якія я апублікаваў. Але мне заўсёды хацелася апублікаваць нешта новае. Паспеў у 2007 годзе выдаць сваю кнігу „Нашы вытокі". Але тады, калі я пачынаў публікаваць першыя артыкулы, то ў мяне яшчэ не было планаў на далёкую перспектыву. Я пісаў пра тое, што нейкім чынам прыцягвала ўвагу чытачоў і даследчыкаў літаратуры. А цяпер думаецца пра тое, што пражыта, што было, чым жыў.

**— Я прачытаў Вашу кнігу „Нашы вытокі" — кнігу пошукаў гісторыка-літаратурнай праўды. Вельмі цікавая кніга.**

— Мая кніга „Нашы вытокі" ўяўляе сабой зборнік артыкулаў, у якіх разглядаюцца з'явы і падзеі старой беларускай літаратуры, удакладняюцца некаторыя трактоўкі „Слова аб палку Ігаравым", іншых помнікаў пісьменнасці. Асноўную ўвагу ў ёй надаю разгляду так званых белых плям і спрэчных пытанняў той далёкай гістарычнай эпохі. Аналізую таксама дзейнасць і літаратурную творчасць Гальяша Пельгрымоўскага, пісара Вялікага Княства Літоўскага.

**— Уладзімір Міхайлавіч, з кім з беларускіх літаратараў падтрымліваеце сёння сувязі, гутарыце, тэлефануеце?**

—Пакінулі нас тыя пісьменнікі, з якімі я мог гутарыць ці ў час сустрэч, ці па тэлефоне. Гэта былі Іван Навуменка, Віктар Каваленка, Генадзь Кісялёў, Янка Брыль і іншыя. Сам я ўжо хадзіць нікуды не магу і пра тое, што адбываецца ў літаратуры, даведваюся толькі з газеты „Літаратура і мастацтва" і часопіса „Полымя". Ад сённяшняга літаратурнага працэсу, на вялікі жаль, я адарваўся ў такой ступені, што ўжо не даў бы рады заўважыць нейкія змены ў ім. Але ад узросту не ўцячэш, а летам мне спаўняецца 90.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# www.beldom.cz.




Беларуская эміграцыя ў Чэхіі, як і ў першай палове мінулага стагоддзя, мае тэндэнцыю да павелічэння. У гэтым падабенстве адчуваецца нейкае неразуменне — чаму так многа значнага для Беларусі і беларусаў адбываецца менавіта ў чэшскай сталіцы? Магчыма, „віной" таму наш першадрукар Францыск Скарына, які таксама працаваў там. Верагодна, гэтая асоба нейкім чынам уплывае на беларускую падсвядомасць амаль праз паўтысячагоддзя, і гэты ўплыў цягне туды новых беларусаў.

Асаблівую групу ў беларускай супольнасці ў Празе ствараюць палітычныя эмігранты. Менавіта ў гэтым горадзе яны, здаецца, больш актыўныя і іхняя дзейнасць больш рэзультатыўная. Адным з доказаў таму з'яўляецца сайт „Беларускага дома ў Празе", які нядаўна з'явіўся ў інтэрнэце.

Месяцца даны сайт на старонцы **www.beldom.cz.** Наш распавед аб ім гэта своеасаблівы працяг распаведу аб „беларускіх дамах" у Вільні і Варшаве, пра якія „Ніва" пісала ў верасні мінулага года. Але ў параўнанні з імі пражскі віртуальны дом беларусаў выглядае больш прываблівa і змястоўна. Магчыма таму, што папрацавалі над ім вэб-дызайнеры больш дбайна.

Увогуле дызайн сайта і яго аздабленне вельмі простыя, але цікавыя. Уверсе выяўлення побач назвы месяцца гербы — БНР і Чэшскай Рэспублікі. Пад імі ідуць выйсці да рубрык. Іх не так многа там — усяго шэсць, але назвы некаторых адразу вызначаюць своеасаблівую палітычна-практычную накіраванасць сайта. Так, на старонцы „Палітвязні" ўказваецца, што „Беларускі дом у Празе" арганізоўвае акцыі салідарнасці ў падтрымку палітвязняў і пратэстныя акцыі супраць парушэння правоў чалавека і свабод у Беларусі. „Мы лічым сваім абавязкам праводзіць дабрачынныя акцыі ў падтрымку зняволеных, ахвяр Чарнобыля, родных палітвязняў, сацыяльна слабых беларусаў (шматдзетныя сем'і, дзеткі без бацькоў, анкалагічныя хворыя)", — распавядаюць актывісты.

У рубрыцы „Бізнес" яны кажуць, што аказваюць дапамогу дробным і сярэднім прадпрымальнікам і бізнесоўцам, якія шукаюць партнёрскіх сувязей на тэрыторыі Чэхіі. „Мы дапамагаем бізнесоўцам, што жадаюць распачаць чэшска-беларускі бізнес, асабліва тым, хто не мае магчымасці спрыяць эканамічнаму развіццю Беларусі з-за пераследаў уладамі, шляхам юрыдычнага суправаджэння і праваых, падатковых і бухгалтарскіх кансультацый. Мы ствараем асяроддзе, якое ўзаемна падтрымае чэшскіх прадпрымальнікаў беларускага паходжання і выхавае мецэнацтва і дабрачыннасць як новую рысу беларускага бізнес-класа", — заяўляюць актывісты „Беларускага дома ў Празе".

Адметна, што ў параўнанні з разнастайнымі нібыта беларускімі дыяспарамі на ўсход і поўдзень ад Беларусі, актывісты беларускай супольнасці ў Празе называюць прыярытэтам у сваёй дзейнасці распаўсюджванне беларускай мовы. Гэтага датычыць старонка „Адукацыя і навука". „Беларускі дом у Празе падтрымлівае студэнцкую моладзь, што імкнецца да атрымання вышэйшай адукацыі ці навуковай ступені ў Чэхіі. Асаблівую ўвагу звяртаем на тых маладых беларусаў, што не маюць магчымасці навучацца на Беларусі з-за пераследу ўладамі", — распавядаецца таксама на данай старонцы.

Гэта толькі некаторыя з мэт, якія ставяць перад сабой насельнікі „Беларускага дома ў Празе". Праўда, даведацца, хто ж канкрэтна ў тым доме гаспадар немагчыма — на старонцы „Кантакты" пазначаны толькі ананімныя адрасы скайпа, электроннай пошты, а таксама тэлефон з чэшскім нумарам.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Абвяшчэнне ідэі праўнай дзяржавы

# 425 гадоў таму быў зацверджаны III Статут ВКЛ

**28 студзеня 1588** года быў зацверджаны галоўны збор законаў Вялікага Княства Літоўскага. Гэта было ўжо трэцяе выданне нашага сярэднявечнага юрыдычнага кодэкса. Папярэднія два пабачылі свет у 1529 і 1566 гадах. Трэба сказаць, што аналагічны друкаваны праўны звод у суседняй усходняй Маскові (так званае „Саборнае ўкладанне цара Аляксея Міхайлавіча") з'явіўся на свет толькі ў 1649 годзе! Статут ВКЛ у апошняй рэдакцыі дзеіў на тэрыторыі Беларусі ажно два з паловай стагоддзі — з 1589 года па 1840 год, пакуль не быў забаронены расійскім рэжымам цара Мікалая І.

Звод законаў, напісаны на старабеларускай мове, быў надрукаваны летам 1588 года ў славутай віленскай друкарні братоў Мамонічаў. Друкарня тая была ў тым самым будынку, дзе раней месцілася друкарня Скарыны. Пазней былі зроблены пераклады Статута на лаціну, польскую і рускую мовы. А на золку суверэнітэту Рэспублікі Беларусь статут заставаўся актуальным пры распрацоўцы першай, уласна нашай Канстытуцыі. Яго палажэнні дэталёва вывучалі юрысты і дапасоўвалі іх да сучаснасці. З сярэднявечнай даўніны і да сённяшніх дзён адукаваныя людзі захапляюцца мудрымі старонкамі гэтай кнігі. У Статуце было грунтоўна распрацаванае крымінальнае права. Уводзілася прэзумпцыя невінаватасці, паводле якой чалавек не лічыцца злачынцам, пакуль ягоная віна не даведзеная судом.

Навукоўцы дагэтуль спрачаюцца, хто больш спрычыніўся да стварэння Статута — Леў Сапега ці Астафей Валовіч. Уражвае як людзі ў XVI стагоддзі ўмелі мысліць катэгорыямі справядлівасці, суадносін дабра і зла, імкнуліся да грамадскай упарадкаванасці і сацыяльнага ладу.

Леў Сапега, на сродкі якога ажыццяўлялася выданне, цвёрда верыў у тое, што краіна тады будзе па-сапраўднаму заможнай і магутнай, калі яе грамадзяне пачнуць жыць па разумных законах. У прадмове ён піша: „Мы такі маем скарб у руках, які за аніякія грошы не купіш. Кожны прыстойны чалавек павінен яго ведаць, каб сам сябе стрымліваў, нікога не крыўдзіў, дзеў згодна пісанага права. А калі хтосьці яго пакрыўдзіць, дык ведаў, дзе шукаць абароны і лекі ад крыўды...".

Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года складаецца з 14 раздзелаў, куды ўвайшлі 488 артыкулаў. Дакумент забараняў чужынцам займаць важныя пасады, набываць ва ўласнасць на Беларусі маёнткі. Меліся і асобныя артыкулы пра ахову лясоў, лугоў, дзікай жывёлы. Ёсць у Статуце 1588 года і асобны запіс пра нашу беларускую мову, якая тады называлася рускай ці простай: „А пісар земскі павінен па-руску літарамі і словамі рускімі ўсе лісты, выпіскі і позвы пісаць, а не іншай мовай і словамі".

Статут ВКЛ па-сутнасці абвясціў ідэю праўнай дзяржавы і ў гэтым ягоная вялікая каштоўнасць і значнасць.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Зацісканне паяска

Перад намі цяжкі год. Наступае эканамічны спад. Падаюць прадпрыемствы. Расце беспрацоўе. Па ацэнцы ГУС, у снежні сягала яно 13,4%, калі ў лістападзе змяшчалася яшчэ ў інтэрвале 12,9%. Напрыканцы снежня было зарэгістраваных 2 136,8 тыс. беспрацоўных. На працягу гэтага ж месяца лік беспрацоўных павысіўся на 244,1 тыс. чалавек. Паколькі ў лістападзе мінулага года прадпрымальнікі прад'явілі ва ўстановы працы 49,1 тыс. вольных працоўных месц, дык гэтыя ж маглі рэкамендаваць працу ў снежні адно для 23,1 тыс. беспрацоўных. Прадбачваецца, што беспрацоўе ў зімовы час можа сягаць 14%. Панікжаецца рознічны продаж. Адпаведна год да году ўпаў ён на 2,5%, а ў снежні на 3,6%. Прадаецца менш аўтамабіляў, тэлевізараў, пральных машын і халадзільнікаў. Развейваецца міф аб „зялёным востраве”. Пасля дваццацігадовага росту нацыянальная гаспадарка пачынае целяпацца чарапашым ходам. Але для ўпраўляючых рэгрэс не пагражае. Вось, напрыклад, маршалак Сейма Ева Копач рашыла выплаціць віцэ-маршалкам „за выдатную працу” (для пяці чалавек) прэміяльныя па 40 тысяч злотых, ды гэтыя ж прапанавалі выплаціць на пяць тысяч больш. Такім чынам прэзідыум парламента з шасці чалавек „праглыне” 245 тысяч злотых грошай падаткаплацельшчыкаў.

— Ці гэта гуманітарна? — пытаў Гжэгаж Кайдановіч на тэлеканале TVN-24 былога віцэ-маршалка ад Грамадзянскай платформы Стэфана Несялоўскага.

— А чаму ж не? — адказаў гэты. — Не бачу ў тым заганы..

Падобнай думкі быў і Гжэгаж Схэтына, адзін з лідараў Грамадзянскай платформы. У час мінулых паўнамоцтваў атрымаў ён прэміяльных (быў тады маршалкам) 36 тысяч злотых, а віцэ-маршалкам была выплачана адпаведна сума ад 32 да 50 тысяч злотых.

Вось, даражэнькія, як абраннікі народа заціскаюць паясок! Нам, смяротным, застаецца адно памарыць аб краіне з малочнымі рэкамі з кісельнымі берагамі, бо „зялёны востраў”, створаны міністрам Растоўскім і прэм'ерам Тускам, лопнуў быццам мыльная бурбалка ў студзеньскія маразы сёлетняй снежнай зімы.

Уладзімір СІДАРУК

PS. Калі я пісаў гэты допіс, нічога не прадвяшчала, што прэзідыум парламента можа станоўча паставіцца да крытычных заўваг грамадскай думкі наконт выплачаных прэміяльных. Але здарылася рэч небывалая. Пасля двухдзённага закалоту ў СМІ маршалак Ева Копач заявіла: „Ацэньваючы належным чынам патрэбу нясення дапамогі найбольш патрабуючым, прызначаную суму 45 тысяч злотых перадам харытатыўным арганізацыям на дабрадзейныя мэты”. Таксама паступілі пяць віцэ-маршалкаў. Адным словам, крытыка дапамагла!

У. С.

# ЗАПРАШЭННЕ

**Сардэчна запрашаем на спектакль**

**«Ой, даўно, даўно»**

**(Беларускія гісторыі з Падляшша)**

**у выкананні вучняў з Беластока, якія раскажуць гісторыі сваіх бабуль, дзядуляў і бацькоў — сведкаў падзей, што адбыліся на нашай зямлі.**

**03.02.2013 г. у 12.$^{00}$**

**у Цэнтры праваслаўнай культуры ў Беластоку вул. св. Мікалая 5**

**Stowarzyszenie na rzecz dzieci i młodzieży uczących się języka białoruskiego „AB-BA”**

Zrealizowano przy wsparciu finansowym Urzędu Marszałkowskiego Województwa Podlaskiego

# Запрашэнне ад Брацтва Трох Свяціцеляў

— 11-12.02.2013 г. — святкаванні ў гонар заступнікаў Брацтва Трох Свяціцеляў — Васіля Вялікага, Рыгора Багаслова і Іаана Златавуста:

* 11.02., гадз. 17.00 — Усяночнае трыванне — Супрасльскі манастыр;

* 12.02., гадз. 5.00 — Святая літургія — ніжняя царква Свята-Мікалаеўскага сабора ў Беластоку;

* 12.02., гадз. 18.00 — святочная сустрэча ў Цэнтры праваслаўнай культуры ў Беластоку.

— 28.02., гадз. 18.00 — Цэнтр праваслаўнай культуры ў Беластоку — сустрэча з а. Андрэем Болбатам, прысвечаная гісторыі праваслаўя ў Суражы.

# АБ`ЯВА

W dniach od 14.07.2010 r. do 31.12.2012 r. Związek Młodzieży Białoruskiej z siedzibą w Szczytach-Dzięciołowie 5, 17-106 Orla przeprowadzał zbiórkę publiczną na podstawie decyzji Marszałka Województwa Podlaskiego nr 2/2010 z dnia 14.07.2010 r. Zebrane środki finansowe zostały przeznaczone na stworzenie i funkcjonowanie Centrum Edukacji i Promocji Kultury Białoruskiej w Szczytach.

W wyniku zbiórki zebrano **19 773,40 zł**, z czego:

— 2 846,96 zł — zbiórka dobrowolnych datków do puszki

— 10 450,00 zł — sprzedaż cegiełek wartościowych

— 6 476,00 zł — wpłaty na wyodrębnione konto bankowe

— 0,44 zł — kapitalizacja odsetek

Koszt przeprowadzenia zbiórki publicznej pokryty ze środków zebranych wyniósł **610,24 zł** i stanowi **3,09%** środków zebranych w wyniku zbiórki. Środki te przeznaczone zostały na:

— opłaty za prowadzenie rachunku bankowego — 560,00 zł

— opłaty za przelewy — 18,00 zł

— opłaty za wpłatę gotówki — 12,24 zł

— opłata za zmianę bankowej karty wzorów podpisów — 20,00 zł

Dochód ze zbiórki publicznej wyniósł **19 163,16 zł** i został przeznaczony na następujące cele:

— Prace remontowo-budowlane w ramach zadania pn. „Przeprowadzenie II etapu adaptacji nieruchomości zabudowanej w Szczytach-Dzięciołowie pod przyszłe Centrum Edukacji i Promocji Kultury Białoruskiej” — 6 003,68 zł

— Pełnienie nadzoru inwestorskiego nad realizacją zadania pn. „Przeprowadzenie II etapu adaptacji nieruchomości zabudowanej w Szczytach-Dzięciołowie pod przyszłe Centrum Edukacji i Promocji Kultury Białoruskiej” — 9 000,00 zł

— Wykonanie instalacji gazowej — 3 865,00 zł

— Napełnienie instalacji CO roztworem glikolu — 294,48 zł

Дзякуем за падтрымку!

# Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — афарызм.

1. мужчынскі голас = 29 _ 41 _ 21 _;
2. клекатун = 5 _ 6 _ 7 _ 8 _ 9 _;
3. пісьмовы стол з шуфлядамі = 50 _ 10 _ 40 _ 33 _;
4. дрэва сямейства вязавых = 35 _ 49 _ 26 _;
5. тоўсты шнур = 42 _ 43 _ 44 _ 30 _ 23 _ 31 _ 24 _;
6. вельмі малады чалавек = 11 _ 12 _ 13 _ 14 _ 15 _;
7. бусел, бусел, клекатун, схапіў жабу за ... = 1 _ 2 _ 47 _ 37 _ 46 _ 45 _;
8. чалавек маленькага росту = 19 _ 20 _ 3 _ 4 _ 38 _ 18 _ 32 _;
9. частка вясковай хаты малога Сымона = 34 _ 36 _ 28 _ 27 _;
10. насціл пад сані = 48 _ 17 _ 39 _ 16 _;
11. атрута = 22 _ 25 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | | | | | | | | | | 6 | 7 | 8 |
| | | | | | | | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| | | | | | | | | | | | | 23 |
| | | | | | | | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| | | | | | | | | | | 29 | 30 | 31 |
| | | | | | | | | | | | 32 | 33 |
| | | | | | | | | | 34 | 35 | 36 | 37 |
| 38 | 39 | 40 | 41 | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 | 47 | 48 | 49 | 50 |

**Адказ на адгаданку з 53 нумара**

Брага, Дрын, Дэга, Лем, лом, мана, ноч, шпага.

Рашэнне: **Лепш мала добрага чым многа дрэннага**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Юстыне Іванюк** з Гайнаўкі і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 03.02 — 09.02

**(22.03. — 20.04.)** Не бойся ўводзіць змен. Дзейнічай з размахам! Тыдзень прынясе ўвагу для тваёй асобы. Можаш сустрэцца з плёткамі, інтрыгамі. З 8.02. пачнеш знаёміцца з людзьмі, дзякуючы якім пабагацееш (добрыя дні на добрыя пакупкі). Неўзабаве над тваёй галавой пачне ісці залаты дождж!

**(21.04. — 21.05.)** Добрыя дні, шчаслівыя выпадкі, нос да інтарэсаў. Праўда, не заробіш „какосаў”, ды не пачысціш свайго рахунку да нуля. Хіба што калі ты народжаны на пераломе красавіка і мая — здабудзеш немалую сумку (усё ж сцеражыся распусты!). Праяві дыпламатычнасць, каб дабіцца здзяйснення сваіх даўніх жаданняў і планаў.

**(22.05. — 22.06.)** 5-9.02. будзь вельмі асцярожны ў пачуццях; час таксама нядобры на падпісванне дамоў; хатнія абавязкі могуць пакрыжаваць твае прафесійныя планы. Не дазваляй пачуццям мяшаць у прафесійных справах. Пазбягай асоб, якія шкодзяць тваім інтарэсам; калі іх пазбудзешся, адразу адкрыюцца перад табою новыя гарызонты. Цэлы месяц дасканалы ў працы Блізнят, народжаных у апошнія дні знака.

**(23.06. — 23.07.)** Станеш перад неабходнасцю хуткіх рашэнняў; шмат нерваў, але варта. Шмат навучышся, асабліва на ўласных памылках. У пачуццях будзе горача і... чула. Добры час для прапанавання сваёй рукі і сэрца, заснуавання саюзаў. А для здароўя варта паадпачываць; вазьмі пару дзён водпуску.

**Леў (24.07. — 23.08.)** 6-10.02. перакаенешся, што твае навукі не пайшлі ў лес, будзеш ганарыцца сваімі дзецьмі, вучнямі. Варта цяпер змяніць свае харчовыя звычкі. Гэта будзе месяц кампанейскіх шаленстваў і... ашчаднасці. Рыхтуйся да вялікіх змен, нават на адварочванне роляў. Можа зоймешся тым, чаго не было ў тваіх абавязках; гэта спачатку будзе раздражняць, ды прынясе немалы поспех і задавальненне.

**Дзева (24.08. — 23.09.)** 6-10.02. хаця б некаторыя твае заслугі будуць добра ацэнены. Ды з 7.02. (да 11.02.) не пераборшч з аптымізмам; пакуль штосьці зробіш, усё добра абдумай; лепш не бяры нічога ў крэдыт. Калі вядзеш фірму, задбай аб рэкламу; 5-11.02. маеш шанц „зайграць на носе” канкурэнтам, ды сяброў табе гэта не прыдбае.

**Шалі (24.09. — 23.10.)** Удасца табе шмат спраў папхнуць уперад. І будзе шчасця ў каханні хоць крышку. Прадбачваецца вельмі рамантычны месяц! Блізкім дай больш свабоды. У здароўі паможа табе натуральная медыцына. Рассакрэціш таямніцу ў фірме, усё стане ясным.

**Скарпіён (24.10. — 22.11.)** Давер сваёй інтуіцыі, якая цяпер твой козыр. Не рань іншых і сам не дай сябе параніць. Ты цяпер абраннік фартуны, і ўсе твае планы ўдадуцца. Увесь месяц іграй у латарэю і іншыя гульні — маеш шанц на прызы. У сераду нічога не купляй на запас, асабліва ежы.

**Стралец (23.11. — 22.12.)** Прапановы заробку будуць сыпацца як з рукава, пара з іх проста ашарашыць. Будуць да цябе ліпнуць зычлівыя людзі. Ахвотна правядзеш час з асобамі хапаючымі жыццё як быка за рогі! Рабі сваё, лепш бяры адказнасць за самога сябе. Ды 7-11.02. могуць даць табе па лапках за самахвальбу.

**Казярог (23.12. — 20.01.)** Вялікага кахання яшчэ пачакаеш, ды грошы ўжо да цябе плывуць. Працы мноства, пра павышэнне не чутна, ды прызнанне маеш як у банку. Аж да 26 лютага Венера падтрымлівае твае фінансы і можаш прыхапіць немалую суму; магчыма што будзе гэта аднаразовая прапанова, дык настаў вушы.

**Вадалей (21.01. — 19.02.)** Аж да 26 лютага Венера напоўніць цябе мілатой, красой, прыцягне да цябе людзей! 7-11.02. зробіш шмат паправак у сваім жыцці. Будзе цікава і працавіта. Хаця на поспехі трэба будзе салідна нарабіцца; а як даб'ешся свайго, дык і не ўцешышся як след, мабыць ад стомы...

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Выкрасаеш з сябе мноства сілы і вострa возьмешся да дзеянняў. Будзеш поўны пазітыўнай энергіі і ахвоты падзейнічаць. Расквітнее сямейнае жыццё. Добры настрой падмацуе здароўе. У кар'еры прытаіся, адпачні. У панядзелак не рассакрэчвай сваіх тайнаў, звязаных з прафесіяй.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7$^{00}$ – 18$^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Калядаванне на Вадохрышча





Душой калядавання ў Войшках быў ансамбль «Гаманіна» з Мінска



Вяскоўцаў наведвалі таксама каляднікі са Студзіводаў і Бельска-Падляшскага (злева: галоўныя арганізатары калядавання Дарафей Фіёнік і яго сястра Анна Фіёнік, а з «хрыстком» стаіць бельскі *жэўжык*)

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**У час святкавання Божага Нараджэння і непасрэдна перад ім, у час Куцці, у многіх нашых сем'ях захоўваюцца яшчэ даўнія народныя абрады, праявай якіх з'яўляюцца ўрачыстая вячэра і калядаванне. Аднак ужо Хрышчэнне Госпаднее праходзіць у нас без вяртання да народных традыцый. У гэтым годзе першы дзень святкавання Богаяўлення, якое ў нас часцей называюць Хрышчэннем Госпаднім, выпаў у суботу і таму ў Вялікім асвячэнні вады вернікі прымалі ўдзел больш масава, чым у папярэдніх гадах. Удзельнікі асвячэння вады ў Відаве падтрымалі ініцыятыву «Сустрэчы на Вадохрышча», якія ўжо другі раз арганізаваў Музей малой айчыны ў Студзіводах. У мінулым годзе на Вадохрышча было наладжана калядаванне ў Грабаўцы, Дубічах-Царкоўных і Арэшкаве, ад якога і ўсё пачалося.**

— Нас вельмі зацікавіў абрад «Хрыстка», які падтрымліваўся ў Арэшкаве жанчынамі з калектыву «Арэшкі», калі тыя былі дзяўчаткамі. На Хрышчэннне Госпаднее хадзілі яны ад хаты да хаты і раздавалі вяскоўцам упрыгожаную галінку дуба з засушанымі лісткамі, якую называлі «хрыстком» і звярталіся ў святочным настроі да гаспадароў словамі: *Панна Марыя на прыстолі стояла*... Гэтая традыцыя незвычайная і не захавалася ў ніякай іншай мясцовасці на Падляшшы, ані нават на Палессі. Мы рашыліся яе аднавіць у нас, на Беласточчыне, і дзеля гэтага ў мінулым годзе наладзілі «Сустрэчы на Вадохрышча» і прадаўжаем іх сёлета, — заявіў Дарафей Фіёнік, старшыня музейнага аб'яднання са Студзіводаў.

— Хаця мы не атрымалі на гэтае мерапрыемства фінансавай падтрымкі ні з Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, ні з Маршалкоўскай управы, рашыліся не апускаць рук і на першы дзень Раства Хрыстовага пайшлі з «Жэмэрвой» калядаваць па Гусаках і Бельску-Падляшскім, а закалядаваныя грошы прызначылі на арганізаванае намі на Вадохрышча мерапрыемства.

У час «Сустрэч на Вадохрышча» было мнагалюдна. У Войшках, распаложаных побач Рыбалаў, дзе адбылося галоўнае калядаванне, вяскоўцам калядкі спявалі «Антракт» з Бельскага дома культуры, «Жэўжыкі» з бельскай «тройкі», некалькі асоб з «Жэмэрвы» са Студзіводскага музея, бо астатнія пахварэлі, і народны ансамбль «Гаманіна», што дзейнічае пры Універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі ў Мінску, які у нас прымаў удзел ужо ў «Кірмашы на святога Мікалая» ў Бельску-Падляшскім і ў фестывалі «Олень по бору ходіт». Менавіта «Гаманіна» была душой калядавання. Маладыя людзі з Мінска, пераапранутыя ў народныя ўборы, хадзілі з прыгожай звёздачкай, мядзведзем і казой. Ведалі яны як размаўляць з мясцовымі жыхарамі перад спяваннем калядак, знаці прымаўкі і прыказкі, якія ў мінулым гаварыліся пасля калядавання. Спеў гучаў нават у час пераходу калядніkaў з панадворка на панадворак.

— Мы раней развучылі калядную праграму, апрацаваную на падставе абрадаў з розных рэгіёнаў Беларусі і цяпер карыстаемся ёй у час калядавання. Яна на практыцы мала розніцца ад калядавання на вашых тэрыторыях, а і калядкі ў Беларусі і тут, на Беласточчыне, падобныя, — сказала кіраўнік «Гаманіны» Наталля Сазонавіч.

Падляшскія калядкі спявалі «Антракт», якім апякуецца Альжбета Фіёнік, «Жэўжыкі», разам з апекуном Аннай Фіёнік і тыя асобы з «Жэмэрвы», што змаглі прыехаць у Войшкі. Вяскоўцам вельмі спадабаліся калядніkі з Беларусі, якія ахвотна размаўлялі з мясцовымі жыхарамі. Адметнасцю калядавання ў Войшках на Вадохрышча было раздаванне дзеткамі і моладдзю жыхарам сяла «хрысткоў» са зваротам: *Панна Марыя на прыстолі стояла*... Калядніkам спадарожнічалі мядзведзь і каза.

— Спяваючы калядкі на Вадохрышча, мы таксама славім Раство Хрыстовае. Але паяўляецца ўжо жывёла, што ў нашай народнай традыцыі мела сваё значэнне. Каза дае малако і ў час калядавання прадвяшчае дастатак у сем'ях, якія наведваюць калядніkі. Мядзведзь напамінае, што ўжо сталі меншаць ночы, большаць дні і гэта прадвяшчае надыход вясны і новага ў прыродзе, — тлумачыў Дарафей Фіёнік.

Калядная праграма ў выкананні гасцей з Беларусі вельмі спадабалася мясцовым жыхарам.

— Мы маладымі многа калядавалі і нам цяпер вельмі цікава паглядзець на так вялікую колькасць калядніkаў, бо зараз калядаванне ў нас знікае. Вёска пусцее. У нас засталося мала малодшых гаспадароў. Аднак апошнім часам пачалі пасяляцца ў нас маладыя сямействы, якія з нашага сяла да язджаюць на працу ў Беласток і яны адна ўляюць тут дамы. Раней, за выключэннем адной сям'і, у Войшках жылі толькі беларусы, а зараз пасяляюцца ўжо палякі, — заявілі Ян Трафімюк і Уладзімір Аўдзяйчук.

— Я думаю, што Войшкі ўжо дайшлі да дна, а апошнім часам адбіліся ад яго. Будзе ў сяле пракладвацца каналізацыя. У гэтым годзе павінна ўжо асфальтавацца брукаваная паверхня дарогі, якая спалучае краёвую «дзевятнаццатку» з нашай вёскай, чаго я дамагаўся ажно шэсць гадоў, — сказаў солтыс і заадно радны Ян Бручко, які заказваў жыхарам, каб тыя выйшлі на панадворкі і прымалі калядніkаў.

— У час калядавання многа радасці, весялосці і станоўчай энергіі. Спяваючы калядкі, мы яшчэ радуемся Хрыстоваму Нараджэнню, і гэтую радасць перадаем вяскоўцам, — заявіла Анна Фіёнік, кіраўнік «Жэўжыкаў» і «Жэмэрвы», а *жэўжыкі* з бельскай «тройкі» Ася Нікіцюк і Наталля Шкода выказвалі радасць, што могуць прымаць удзел у такім вялікім і разнародным калядаванні.

— Мы пад вялікім уражаннем ад гасцінасці жыхароў Войшак, якія нас так добра прымаюць і дораць нам падарункі, грошы і цукеркі, — сказалі Тацяна Пілюцік, Алена Аруцюнян і Аляксей Аляшэвіч з «Гаманіны».

Калядаванне па вёсцы закончылася, калі пачало цямнець. Тады калядніkі разам з часткай вяскоўцаў пайшлі ў прыгожа адрамантаваную святліцу, дзе чакалі іх гарачыя напіткі і святочная закуска. Разагрэўшыся, калядніkі выступілі са святочнай праграмай перад жыхарамі Войшак, да якіх прыехаў настаяцель Рыбалаўскага прыхода, мітрафорны протаіерэй Рыгор Сасна.

— Калядніkі з Беларусі вельмі культурныя, бо спачатку прыехалі па благаславенне на калядаванне ў наш прыхадскі дом і закалядавалі перад бацюшкам. Мы паказалі ім прыхадскі музей «Бацькаўшчына» ў Рыбалах. Калі па нашых сёлах практычна знікае калядаванне дзетак і моладзі — сёлета прыйшлі да нас калядаваць толькі дзве групкі вучняў і то не з Рыбалаў, але з суседніх вёсак — то сённяшняя калядная ініцыятыва для нас вельмі дарагая і цікавая, — сказаў айцец Рыгор Сасна, які быў пад вялікім уражаннем ад святочнай праграмы «Гаманіны».

Пасля ўдалага калядавання «Жэўжыкаў» з «тройкі», спявалі калядкі і народныя песні выкладчыкі і студэнты мінскага ўніверсітэта. Запрэзентавалі яны народныя танцы і сумелі заахвоціць да танцаў публіку. Вялікае ўражанне на сабраных зрабіла таксама народная капэла «Гаманіны».

— У якой вышэйшай навучальнай установе ў Польшчы, асабліва інфарматычнай, можна сустрэць такі народны ансамбль, як «Гаманіна», — заявіў з радасцю Дарафей Фіёнік, які выступіў перад публікай у народнай вопратцы і ў даўняй зімовай шапцы.

На жаль сёлета не змаглі даехаць «Хмялеўскія валацугі», з якімі Студзіводскі музей наладзіў шчыльнае супрацоўніцтва і якія калядавалі ў мінулым годзе на Вадохрышча на Гайнаўшчыне.

— Вельмі вялікае ўражанне зрабіў на нас музей у Рыбалах, дзе мы ўбачылі мноства цікавых экспанатаў. Мы цяпер нават гаварылі, каб у сябе такі музей арганізаваць, покі па Беларусі можна яшчэ сабраць падобныя экспанаты, — сказалі мінчане. — Асвячэнне вады ў Відаве таксама зрабіла на нас вялікае ўражанне. Усё, што мы тут убачылі, застанецца ў нашай памяці.

Напярэдадні Вадохрышча на панадворку Дарафея Фіёніка і ў Студзіводскім музеі адбылося асвячэнне будынкаў. Спадар Дарафей прынёс дамоў ваду з Малога асвячэння вады, што адбылося раніцай, напярэдадні святкавання Хрышчэння Гасподняга і пасля Куцці, якую арганізавала сям'я Фіёнікаў у гэты посны дзень, і асвячаў ёю свой і музейны дабытак.

— Сноп, што стаіць у кутку хаты ад Куцці перад святамі Нараджэння Хрыстовага, да Вадзяной куцці перад святамі Хрышчэння Гасподняга, у нас называюць «госцем». Пасля ўрачыстай вячэры перад Вадохрышчам, з куццёй і іншымі поснымі стравамі, падобнай да той, што ладзіцца напярэдадні Раства Хрыстовага, я абрэзваю калоссе з гэтага снапа збожжа. Калоссе я абмакваю ў асвячоную ваду і спачатку асвячаю ёю сваю хату, а пасля іншыя будынкі, разам з клуняй і хлявом. Дзверы асвячаю ад сярэдзіны і звонку, а на галоўных уваходных дзвярах у доме, клуні і ў музейных хатах рысую крэйдай крыж і пішу літары «ХВ», што абазначае «Хрыстовае Вадохрышча». Дапамагае мне мой сын Максім, які вучыцца нашым традыцыям. Пасля асвячонае калоссе дабаўляю да корму, каб жывёла добра гадавалася і не хварэла. Будынкі асвячаецца, каб зберагчы іх на працягу года ад усякіх няшчасцяў. Саломай ад «госця» я абкручваю дрэвы ў садзе, каб удала перазімавалі. Усё, калі робіцца з малітвай, мае духовае значэнне, — расказваў Дарафей Фіёнік.

Ансамбль «Гаманіна» на другі дзень святкавання Хрышчэня Гасподняга выступіў яшчэ ў Аглядзе ўсходнеславянскіх калядак у Сямятычах і Драгічыне, якія наладзіў там Дэканальны інстытут праваслаўнай культуры ў Сямятычах.

ISSN 0546-1960